


# наша Слова




Штотыднёвік (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) № 29 (293) 18 ліпеня 1996 г. Кошт -- 1000 рублёў

*Актуальна*
"Псіхатропная бомба" пад нацыю
*Стар.3.*

*Беларускае замежжа*
Слова — фармацэўту з Бельгіі
*Стар.4.*

# ПОСТУП ТЫДНЯ



○ **ПРЭЗІДЭНТ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ АЛЯКСАНДР ЛУКАШЭНКА НАВЕДАЎ З АФІЦЫЙНЫМ ВІЗІТАМ ФРАНЦЫЮ.** Адразу пасля прыбыцця ў Елісейскім палацы адбылася сустрэча кіраўнікоў двух дзяржаў. Прэзідэнты Беларусі і Францыі падпісалі шырокамаштабны палітычны дагавор аб узаемаразуменні і супрацоўніцтве паміж нашымі дзяржавамі.

○ ***НА АДНЫМ З АПОШНІХ ПАСЯДЖЭННЯЎ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА*** *быў выбраны галоўны рэдактар "Народнай газеты". Ім стаў дэпутат Леанід Юнчык, за якога аддалі свае галасы 122 парламентарыі. Некалькі дзён да гэтага на гэтую ж пасаду ўказам Прэзідэнта Беларусі быў назначаны Міхаіл Шыманскі. І хто цяпер будзе кіраваць газетай?*

○ **ПРЭЗІДЭНТ АЛЯКСАНДР ЛУКАШЭНКА СУСТРЭЎСЯ** з галоўнымі рэдактарамі вядучых сродкаў масавай інфармацыі Беларусі. На пытанне: "Ці будзе заўтра суверэнай наша краіна?" ён сказаў: "Дакладней, ці застанецца яна дзяржавай? Дык я вам адразу скажу — няма такой праблемы. З цяперашнім Прэзідэнтам гэтай праблемы ніколі і не будзе. Чаму я часам не крычу "гвалтам" аб незалежнасці, аб суверэнітэце, аб рэформах і гэтак далей? Я лічу, што "гвалт" сёння не патрэбны. Давайце моўчкі будзем нашу дзяржаву рабіць суверэннай, незалежнай. Не настройваючы супраць сябе ні Расію, ні Украіну, ні Польшчу, ні Захад. Нагаварыліся ўжо. Я ведаю, што гэта найвышэйшая каштоўнасць — суверэнітэт нашай дзяржавы". Так бы і далей!

○ ***У ДРУКУ ЎСЁ ЧАСЦЕЙ СТАЛА З'ЯЎЛЯЦЦА ІНФАРМАЦЫЯ*** *аб тым, што Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка мае намер правесці ў хуткім часе новы рэферэндум. Сярод пытанняў, якія будуць вынесены на абмеркаванне, будзе і наданне бел-чырвона-беламу сцягу статуса гістарычнага. Дарэчы, у гэтым годзе нашай нацыянальнай сімволіцы спаўняецца 700 гадоў. Няўжо гэтых стагоддзяў мала, каб бел-чырвона-белы сцяг лічыўся гістарычным без рэферэндуму?*

○ **У ГАЙНАЎЦЫ І БЕЛАВЕЖЫ НА БЕЛАСТОЧЧЫНЕ АДБЫЛОСЯ ВЯЛІКАЕ ТРАДЫЦЫЙНАЕ СВЯТА** – Купалле, якое наладзіла Беларускае грамадска-культурнае Таварыства. Разам з гаспадарамі на ім прысутнічалі госці з Беларусі.

○ ***НА ЗАКРЫЦЦІ ПЕРШАЙ СЕСІІ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ТРЫНАЦЦАТАГА СКЛІКАННЯ ВЫСТУПІЎ СТАРШЫНЯ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА СЯМЁН ШАРЭЦКІ.*** *За час першай сесіі было праведзена 99 пленарных пасяджэнняў і разгледжана 282 пытанні. Прынята 54 законы і больш за 200 пастаноў. Першае пасяджэнне другой сесіі будзе праходзіць 3 верасня.*

○ **ДЭКАНАМ ЖУРФАКА БДУ СТАЎ** 42-гадовы дацэнт кафедры гісторыі беларускай журналістыкі і літаратуры, кандыдат філалагічных навук Пётр Дарашчонак.

○ ***ЗАПАЗЫЧАНАСЦЬ НАШАЙ КРАІНЫ ЗА ЭНЕРГАНОСЬБІТЫ Ў ПЕРШЫМ ПАЎГОДДЗІ*** *склала 1 269 млрд. рублёў, а аплата за бягучае спажыванне за гэты час склала толькі 74 працэнты. Калі і чым разлічымся?*

# Канікулы з падручнікам

**Дэпутаты Вярхоўнага Савета завяршылі сваю 1-ю сесію. На развітанне Старшыня ВС Рэспублікі Беларусь СЯМЁН ШАРЭЦКІ** выказаў пажаданне, *каб шаноўныя дэпутаты выкарысталі свае летнія канікулы не толькі для адпачынку, але і для авалодання беларускай мовай. Я мяркую, — адзначыў Старшыня парламента, — што чарговую асеннюю сесію мы пачнем на беларускай мове і будзем на ёй працаваць далей... Бо гэта адзіная згодна Канстытуцыі дзяржаўная мова.*

**Дэпутаты ўхвалілі гэтыя словы апладысментамі.**

*Беларусь жыве!*

# Канферэнцыя БНФ

Канферэнцыя Беларускага Народнага Фронту, якая адбылася ў мінулыя выхадныя, сабрала надзвычай шырокае кола ўдзельнікаў, асабліва з перыферыі. На ёй быў зачытаны даклад З.Пазьняка "Аб палітычным становішчы ў краіне і палітыцы Народнага Фронту", гэтая тэма была асноўнай на канферэнцыі. Таксама выступілі лідэры БНФ Ю.Хадыка, В.Вячорка, В.Асташынскі са сваімі меркаваннямі пра перспектывы дзейнасці Фронту. Яны засведчылі нязменнасць сваіх пазіцыяў: пашырэнне нацыянальна-выхаваўчай працы сярод насельніцтва, асабліва сярод працаўнікоў заводаў, але — з большым радыкалізмам.

На працягу двух дзён ішла праца па секцыях. На заключным пасяджэнні былі прыняты выніковыя дакументы: рэзалюцыя "Нацыянальна-дэмакратычны рух у Беларусі на пераломе стагоддзяў", зварот да Вярхоўнага Савета з заклікам падтрымаць імпічмент, заклік да Генеральнага пракурора, Старшыні Канстытуцыйнага суда, кіраўнікоў парламента актыўна дамагацца спынення праследавання З.Пазьняка, С.Навумчыка, Ю.Хадыкі, В.Сіўчыка і В.Вячоркі, а таксама рашэнне аб удзеле БНФ у восеньскіх давыбарах у Вярхоўны Савет і мясцовыя органы прадстаўнічай улады.

Было яшчэ раз нагадана, што БНФ выступае за нейтральную, бяз'ядзерную Беларусь, супраць уваходжання рэспублікі ў любыя ваенныя саюзы.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ.**

*Маладая Беларусь*

# Нараджаецца новы Саюз Моладзі

Ініцыятыва па стварэнні той ці іншай грамадскай альбо палітычнай арганізацыі звычайна зыходзіла са сталіцы Беларусі. Аднак гэта традыцыя нядаўна была парушана Маладзечнам: у нас мясцовая патрыятычна настроеная моладзь заснавала грамадскую арганізацыю "Беларускі Дэмакратычны Саюз моладзі" (БДСМ). Сваёй мэтай гэты Саюз бачыць згуртаванне той часткі беларускай моладзі, якая выступае за незалежнасць нашай дзяржавы, за хутчэйшае адраджэнне нашай мовы і культуры, за адстойванне правоў чалавека і захаванне Канстытуцыі РБ.

Маладыя людзі, якія сталі ініцыятарамі БДСМ у нашым горадзе, імкнуцца да таго, каб гэта арганізацыя пашырыла кола сваіх прыхільнікаў па ўсёй Беларусі і стала беларускай не толькі па назве, але і тэрытарыяльна.

Для тых, хто зацікаўлены ў гэтай ініцыятыве і жадае наладзіць стасункі з Маладзечнам, прапануюцца тэлефоны для сувязі:
(01773) 5-37-69 (Алесю Дудко);
5-10-60 (Барысу Саку);
6-53-39 (Вячаславу Бакаvоўскаму).
Для паштовых лістоў адрас:
222310 г.Маладзечна-7, п/с №37 (Алесю).

**Алесь ЦАДКО.**
г. Маладзечна.

# Кожны любіць горад па-свойму

"Я люблю Менск" — называлася свята горада, якое прайшло ў сталіцы 6 ліпеня і сабрала на сваіх канцэртных пляцоўках дзесяткі тысяч менчукоў.

Выступленні фальклорных калектываў і кірмаш распачаліся каля Палаца Спорту ўжо а 12 гадзіне. Але хіба найбольшую колькасць удзельнікаў і гледачоў сабраў фестываль піва "Смага-96", арганізаваны Менскімі піўзаводамі "Аліварыя" і "Крыніца", а таксама Лідскім піўзаводам. Кожны гатунак беларускага піва быў прадстаўлены на фэсце асобным шапікам, і ў аматараў хмельнага напою не ўзнікала праблемаў, дзе адшукаць любімую марку. Музычная частка фэсту распачалася выступленнямі менскіх гуртоў "Ляпіс Трубецкой" і "Нейра Дзюбель", музыканты якіх былі актыўнымі ўдзельнікамі фестывальных спаборніцтваў. А цвіком праграмы сталі, безумоўна, "Сябры" са сваім хітом "Піце піва, мужыкі" і прэзентацыяй новага фірменнага гатунку цёмнага піва "Сябры".

Конкурсы і спаборніцтвы такія, як перацягванне каната, шуканне закапаных прызоў з мінашукальнікам ды шмат іншых, прыцягнулі ўвагу адпачываючага народа значна больш, чым з'яўленне на свяце Прэзідэнта Лукашэнкі. У атачэнні вялікай світы і целаахоўнікаў ён прайшоўся сярод радой піўных палатак, пасля чаго ў лепшых традыцыях савецкіх часоў пачалася непрацяглая размова з народам. Але гледачы былі настолькі захоплены забавамі і паглынаннем піва, што слухаць Прэзідэнта ў іх не было вялікага жадання.

Каля сёмай гадзіны ўвечары навальніца трохі зблытала святочную праграму. Так, з-за яе не адбыўся планаваны паказ у Траецкім прадмесці оперы "Дзікае паляванне караля Стаха".

Але толькі на нейкі час яна змусіла людзей пахавацца ад водных патокаў, і ўжо прыкладна праз гадзіну моладзь зноў тусавалася ля галоўнай канцэртнай сцэны, дзе пачалася праграма купальскага свята. Праўда, большасці ўжо было зусім не да шукання папараць-кветкі. Многія працягвалі пачатае яшчэ ўдзень баляванне з вялікай колькасцю алкаголю. На сцэну выбраўся нехта В.Касэнка, які спрабаваў спяваць на расійскай мове песні Ф.Сінатры, потым нейкіх асоб і ўвогуле пацягнула на творы расійскага блатнога фальклору. Народ жа знаходзіўся ў стане лёгкай апатыі, і толькі некаторыя спрабавалі няроўнымі галасамі падпяваць выканаўцам. Публіка разышлася толькі пад раніцу, пакідаючы пасля сябе горы смецця і бітага шкла. Вось такая ў некаторых своеасаблівая любоў да роднага горада.

Другім цэнтрам свята стала ўзбярэжжа Свіслачы ў раёне плошчы Перамогі, дзе ў 22.30 пачалася шоў-праграма "Балет на вадзе". Светавое афармленне забяспечвалі каля дзесятка вайсковых машын з моцнымі пражэктарамі. Артысты выканалі фрагменты з балетаў "Лебядзінае возера", "Шчаўкунчык" і іншых класічных твораў, чым не раз зрывалі авацыі ўдзячных гледачоў.

На досыць высокім прафесійным узроўні было праведзена піратэхнічнае шоў-феерверк, якім скончылася гэтае свята на вадзе. Па тварах людзей было заўважальна, што многія ўпершыню бачылі шоў такога ўзроўню, якое не ішло ні ў якае параўнанне са звыклымі з савецкіх часоў "святочнымі салютамі".

**Ян АСКЕРКА.**

# 10 $ — цана навучання па-расійску

***Сталічная сярэдняя школа № 199, адкрытая ў 1991 годзе, адразу ж набыла статус беларускай гімназіі. Для яе навучэнцаў гэта азначае атрыманне адукацыі якасна лепшай, чым у звычайных сярэдніх школах. Да восьмага класа ў гімназіі выкладаюцца музыка, жывапіс, пластыка, харэаграфія, беларускія народныя рамёствы. А ў старэйшых класах чытаюцца лекцыі эканомікі, права, выкладаецца менеджмент, маркетынг і іншыя дысцыпліны гэтага шэрагу, бо гімназія мае эканамічную спецыялізацыю. Высокі ўзровень выкладання дазваляе залічваць выпускных адзнакі навучэнцаў як уступныя на экзаменах у ВНУ. Маючы добрую падрыхтоўку, 48 з 51 мінулагодніх выпускнікоў сёлета сталі студэнтамі, 45 з іх — у эканамічных вышэйшых навучальных установах.***

***Але ўвагу да сябе "Нашага слова" гімназія прыцягнула іншым. У канцы гэтага школьнага года яе адміністрацыя правяла ў адзіным беларускім першым класе бацькоўскі сход. Яго ўдзельнікі даведаліся: праграма матэматыкі, паводле якой вучыліся іхнія дзеці, надзвычай недасканалая і таму з наступнага года матэматыка ў беларускім класе будзе выкладацца паводле падручнікаў, выдадзеных у Маскве, а значыць, па-расійску. На закупку новых падручнікаў (замест бясплатных беларускіх) бацькам было рэкамендавана сабраць па 10 долараў з кожнага, гэта значыць па паўтары мінімальных месячныя зарплаты.***

***"На сходзе першых класаў — двух расійскамоўных і беларускага — я пачула ад завуча: дзякуй за тое, што ў расійскамоўных класах бацькі ўжо сабралі грошы і паслалі настаўнікаў на курсы перападрыхтоўкі ў Маскву", — паведаміла ў рэдакцыю "Нашага слова" Яўгенія Краўчук, маці вучаніцы адзінага беларускага класа.***

***Каб даведацца, колькі месца адведзена беларусам у беларускай гімназіі, карэспандэнт "Нашага слова" сустрэўся з яе дырэктарам Людмілай Карагінай.***

**— Як адбіваецца на выкладанні беларускі статус гімназіі?**

— Мы делаем упор на белорусскую национальную культуру. Около 70 процентов спецкурсов — дополнительных, не изучающихся в обычных школах дисциплин — читаются по-белорусски: "Роднае слова", "Радавод", "Сусветная мастацкая культура", "Гісторыя хрысціянства" и другие. А физкультура, история, география преподаются на белорусском даже в русскоязычных классах.

**— Адкуль яны ў беларускай гімназіі?**

— В 1991-м мы набирали только белорусские первые классы. А теперь есть и русскоязычные, но часть предметов в них преподается по-белорусски.

**— Як суадносіцца колькасць беларуска- і расійскамоўных класаў?**

*(Заканчэнне на с.2.)*

## Культурнае жыццё

Шматлікіх музыкаў, спевакоў і танцораў запрасіла гасцінная пастаўская зямля на фестываль народнай музыкі "Звіняць цымбалы і гармонік". З гэтага года традыцыйны ўжо фестываль атрымаў статус міжнароднага. На яго прыехалі ўдзельнікі з Расіі, Малдовы і Беларусі.

У праграме — мастацка-гістарычная праграма "Пастаўскі баль", канцэртныя выступы ўдзельнікаў фестывалю, творчыя лабараторыі, конкурсы, феерверкі і шмат чаго іншага. Свята скончылася гала-канцэртам і ўручэннем дыпломаў пераможцам і лаўрэатам. Арганізатары фестывалю — Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, упраўленне культуры Віцебскага аблвыканкама, Пастаўскі і Глыбоцкі раённыя выканаўчыя камітэты.



**На здымку**: У час адкрыцця фестывалю.

**Фота Віктара ТАЛОЧКІ, БелТА.**

## Уражанні

# Чыстае, роднае, балючае

Жыве, ціха канаючы, на **Ельшчыне** некалі вялікая, спеўная, а цяперака пахмурная, здрабнелая вёска **Мядзведнае**. Шчэ ў 50-я гады ваколіцы трывалі дубровамі, гаямі, белькамі ды балотамі.

Руплівы селянін дбаў пра ўрадлівыя **Ніва**, блакітнае люстра вады **Нябца**, струменістую крыніцу ў **Ператоцы**. Выганяючы на пашу тавар, не мінаў пастух роснай раніцаю **Паўлаў Калодзеж, Вазковыя Дзялянкі, Гаўрылаў Мох, Сідзёніха, Вадрынка** — паўсюдна хапала для гавяды пашы. Апоўдні статак самахоць рухаўся да **Ляксандравага Кайдаба**, да напоўненых вадою карытаў.

Нас, басаногіх хлапчукоў, мама брала з сабою па чарніцы. Далёка ў **Вітоўню** альбо да **Базаёвага Хвойніку, Бароўскіх Алешынаў** не даходзілі. Збіралі ягады ў паркім **Дамкове** ці на праменістай і сухой **Жураўлісе**. Недалёка, каля **Мінінай Гары** наталялі смагу з бяроставай конаўкі, якая, натыркнутая на дручок, здалёк паказвала на лясную крыніцу. Стомленыя надвечар ціха брылі да хаты паўз **Пілновічавае Поле, Мядзвежанскае Балота, Раманавае Стойла, Навіну, Грэбальку.**

Ніколі не забуду навуку дзеда Паўла касіць. Разам выбіралі месца ў **Ліпніках, Рачыцы**, але так, каб унук сваімі кволымі ўзмахамі не пашкодзіў асноўны пакос, дзе сталы касец нарыхтуе духмянага сена. Потым ужо ішлі шукаць белых каласавікоў да **Заграіхі, Вербава** або ў **Ліхую Гразь, Ялец, Ганчароў Бераг**.

Верасень прыносіў новы клопат, новыя захапленні. Трэба груш-дзічак назапасіць, чырвонабокіх брусніц, журавін. Лясныя ўрочышчы былі нам знаёмыя. Шыбавалі тады да **Згонскай Бярозы, Кірылавага Калодзежа, Мікедавай Балоні**. Адтуль прыходзілі з поўнымі кашалямі.

Смутак вярэдзіць душу, калі бачыш, як гіне лес, гніюць калодзежы, крыніцы, забываюцца, знікаюць у нябыт урочышчы. Маркотна, пакутліва-рахмана дажывае вясковы люд.

Божа літасцівы! Што будзе з нашымі нашчадкамі?

**Мікола ЗІМНІК.**
г.Мазыр.

# Палітінфармацыі ў калумбійскіх джунглях...

вымушаны быў праслухаць беларускі грамадзянін Віктар Сталяроў, захоплены камуністычнай бандай у Калумбіі.

Наш суайчыннік працаваў па кантракту на расійска-калумбійскім супольным прадпрыемстве "Макес": займаўся абслугоўваннем цяжкавагавых аўтамабіляў БелАЗ.

Сталяроў быў захоплены ў снежні 1995 г. прадстаўнікамі адной з левых тэрарыстычных груповак, якія вядуць партызанскую вайну супраць урадавай арміі Калумбіі. Ён утрымліваўся ў джунглях недалёка ад мяжы з Венесуэлай.

Да гэтага часу не зусім зразумелыя матывы захопу тэрарыстамі беларускага грамадзяніна. Вядома, што яны прымушалі Віктара па некалькі гадзін у дзень вывучаць працы класікаў марксізму-ленінізму.

Вызваленню Сталярова садзейнічалі прадстаўнікі Міжнароднага Чырвонага Крыжу. Вядома, што спецслужбы Калумбіі неаднаразова прапаноўвалі правесці сілавую акцыю па вызваленні закладніка, але не давалі гарантыі захавання яго жыцця. Урэшце рэшт удалося перакапаць марксісцкіх рэвалюцыянераў вызваліць Віктара Сталярова.

У сувязі з гэтым інцыдэнтам выклікае цікавасць пазіцыя Міністэрства замежных спраў Беларусі. Што яно канкрэтна рабіла па вызваленні нашага суграмадзяніна? Чаму яго лёс хваляваў расійскіх дыпламатаў, а нашыя ўлады захоўвалі поўнае маўчанне? Будзем спадзявацца, што прадстаўнікі МЗС, КДБ ды іншых структур, якія адказваюць за бяспеку нашых грамадзян, дадуць свае тлумачэнні журналістам і грамадскасці.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ.**

# Даты і падзеі ў ліпені

**19** — 130 гадоў з дня нараджэння Андрэя Сніткі, археографа і краязнаўца, аўтара "Гісторыі Слуцка" (рукапіс).

**20** — 425 гадоў таму ў дамове падзелу маёнтка Глуск згаданы Глускі драўляны замак, што меў 34 гароднi і тры вежы, адна з якіх мела браму з мастом перад ёю.
— 140 гадоў з дня нараджэння Часлава Пяткевіча, этнографа і фальклараста, аўтара трохтомнай манаграфіі пра Рэчыцкае Палессе, шматлікіх артыкулаў пра этнаграфію і міфалогію нашага народа.

**21** — 60 гадоў з дня нараджэння Юліі Чурко, балерыны, мастацтвазнаўца, педагога, аўтара кніжак пра беларускі балет, народныя танцы.

**22** — 80 гадоў з дня нараджэння Уладзіміра Юрэвіча, пісьменніка, крытыка і літаратуразнаўца.
— 60 гадоў з дня нараджэння Валянціны Гаявой, балетмайстра, стваральніка славутага калісьці гурта "Харошкі".
— 60 гадоў з дня нараджэння Вячаслава Чамярыцкага, літаратуразнаўца, крытыка, перакладчыка, даследніка беларускіх летапісаў.

**24** — 85 гадоў з дня нараджэння паэта Анатоля Астрэйкі, першы зборнік ягоных вершаў "Слуцкі пояс" быў надрукаваны ў партызанскай друкарні.
— 70 гадоў з дня нараджэння Вольгі Церашчатавай, мастацтвазнаўца, адной з стваральнікаў Музея старажытнага беларускага мастацтва пры Акадэміі навук.

**25** — у гэты дзень пачынаўся славуты ў 18 стагоддзі Зэльвенскі кірмаш і віраваў цэлы месяц.

# Скаўцкі веснік —

так называецца часопіс Аб'яднання беларускіх скаўтаў, першы нумар якога выйшаў з друку ў Менску. Арганізацыя — выдавец часопіса — з'яўляецца беларускай не толькі паводле назову, бо лозунгам новага выдання сталі словы "Бог і Бацькаўшчына", а моваю — беларуская.

Аб чым піша і будзе пісаць "Скаўцкі веснік"? Пра гэта сказана ў рэдакцыйным артыкуле першага нумара — звароце да чытачоў: "Папершае, часопіс стане інфармацыйным: мы будзем пісаць пра ўсе падзеі, якія адбываюцца ў жыцці беларускіх і замежных скаўтаў, асвятляць пасяджэнні Рады АБС, знаёміць з яе рашэннямі.

Па-другое, спадзяёмся, гэта будзе і ваш часопіс: мы збіраемся змяшчаць на яго старонках допісы, замалёўкі, фотаздымкі, што распавядаюць пра вашу скаўцкую дзейнасць, а таксама мастацкія творы, якія вы нам дашляце.

Па-трэцяе, частка часопіса будзе адведзена скаўцкаму практыкуму, у якім вы знойдзеце парады, якія могуць дапамагчы ў вандроўках, навучыць правільна паводзіць сябе ў экстрэмальных сітуацыях, зрабіць патрэбны рыштунак і іншае.

Чакае вас і забаўляльная старонка (якая таксама будзе папаўняцца з вашай дапамогай) і яшчэ шмат цікавага.

А ўвогуле, гэта будзе часопіс скаўтаў, для скаўтаў і пра скаўтаў."

У першым нумары "Скаўцкага весніка" выкананыя ўсе абяцанні, дадзеныя рэдакцыяй. На яго старонках змешчаны парады заснавальніка скаўцкага руху Бадэн-Паўэла скаўцкім інструктарам, жыццяпіс і здымак самога Б.П. (так яго называюць скаўты ўсяго свету), інфармацыя пра "Бронзавага ваўка" — галоўную скаўцкую ўзнагароду, артыкулы пра скаўцкую сімволіку і атрыбутыку, ды пра месца ў іх беларускай нацыянальнай сімволікі. Часопіс знаёміць сваіх чытачоў з гісторыяй і сучаснасцю беларускага скаўтынгу, з ягонымі традыцыямі і песнямі. На старонках выдання змешчаны практычныя парады ўдзельнікам скаўцкіх вандровак, а таксама інфармацыі з жыцця скаўтаў іншых краін — Нідэрландаў, Польшчы, Украіны, Чэхіі ды Францыі.

Для тых, хто цікавіцца скаўтынгам, падаём адрас для ліставання з рэдакцыяй "Скаўцкага весніка": 220036, Менск, п.с.40-60, тэл. (017) 232 - 47- 01.

**У.П.**

# 10 $ — цана навучання па-расійску

*(Заканчэнне. Пачатак на с.1.)*

— В прошлом году мы набрали один белорусский и по заявлениям родителей два русскоязычных.

**— Тое ж будзе і сёлета?**

— Теперь у нас не будет чисто русских или белорусских классов, потому что мы переходим на новую программу математики. Мы берем российскую программу, потому что при всем моем уважении к белорусской науке мы еще не достигли в математике уровня россиян. Что сейчас есть в начальной школе? Виленкина, Нурк и Столяр. Но поговорите со всеми учителями начальной школы в городе — это же безобразие! У Столяра нет единого стержня, там просто вырваны отдельные темы. Зато новая программа Виленкина, которой мы будем пользоваться, создана специально для гимназии. А учебник Столяра подходит скорее детям со слабыми и средними способностями в математике.

С новой программой Виленкина, съездив в Москву на курсы повышения квалификации, познакомились мои учителя. Мы поговорили с родителями и решили: все предметы на белорусском, а математика — на русском. Потому что цель нашей гимназии — дать более высокий уровень образования. В этом году мы наберем три белорусских первых класса, но математика в них будет преподаваться по-русски.

**— Ці мелі магчымасць вашыя настаўнікі азнаёміцца з праграмамі іншых, акрамя Расіі, краін?**

— Конечно. Они были на Украине, там в переводе на украинский используется учебник российского автора Сканави. Сама я была в Литве, но, не зная языка, с программами знакома мало.

**— Ці не прывядзе паступовы пераход выкладання на расійскую мову да фактычнага скасавання беларускага статуса гімназіі?**

— Нет. Мы сохраним белорусский язык во всех классах. Стержнем нашей программы остается белорусская национальная культура.

**— Як ставяцца да зменаў бацькі вашых вучняў?**

— Абсолютно нормально, тем более, что 80 процентов предметов у нас по-прежнему преподаются на белорусском. Ну, может, найдутся один-два человека, которые будут против. Но когда начнешь с ними разговаривать... Правда, я еще не разговаривала. Но ведь никто белорусского языка не уничтожает, поверьте. Наша цель — дать детям хорошее образование.

*Ці сапраўды беларускія падручнікі матэматыкі горш за іншыя? Каб атрымаць адказ на гэтае пытанне, карэспандэнт "Нашага слова" звярнуўся да супрацоўнікаў лабараторыі агульнай і сярэдняй адукацыі Навукова-метадычнага цэнтра вучэбнай кнігі і сродкаў навучання Міністэрства адукацыі і навукі.*

— Аўтарам падручніка матэматыкі, які цяпер ужываецца ў беларускіх школах, быў прафесар Магілёўскага педагагічнага інстытута Столяр, які яшчэ ў 80-х гадах першым у тагачасным СССР распрацаваў методыку выкладання матэматыкі шасцігодкам, — паведаміла метадыст пачатковага навучання Цэнтра Ірына Гімпель. — Гэтая методыка выдавалася не толькі ў СССР, але і за мяжою, бо з'яўлялася прагрэсіўнай. А ў 1992 годзе ў Беларусі выйшаў ягоны падручнік матэматыкі для першага класа, а ў дадатак — напісаная тым жа аўтарам методыка выкладання. Падручнік меў назву "Пагуляем у матэматыку" і вельмі добра ўспрымаўся дзецьмі. А з 1992 па 1995 гады выйшлі падручнікі, напісаныя Столярам і ягонымі вучнямі для класаў з першага па чацвёрты. Яны прайшлі праверку і атрымалі станоўчую ацэнку.

Столярам быў створаны навуковы калектыў, удзельнікі якога сталі сааўтарамі падручнікаў для 3-га і 4-га класаў, а пасля смерці Столяра працягнулі распачатую ім справу. Такім чынам пачала ствараецца беларуская нацыянальная сістэма выкладання матэматыкі ў школе, больш дасканалая, чым ужываныя дагэтуль падручнікі маскоўскага аўтара Маро, да 1995 г. ужываныя ў нас як паралельныя. Бо сістэма падручнікаў Столяра і яго калектыва сучасная, цікавая, добра ілюстраваная, разлічаная на развіццёвае навучанне дзяцей. Я сама выкладаю ў школе і, карыстаючыся гэтымі падручнікамі на працягу апошніх чатырох гадоў, бачу, як добра дзеці аперыруюць матэматычнымі тэрмінамі, як развіваецца іх лагічнае мысленне. Варта дадаць, што ўвесь час дасканаляцца і метадычныя рэкамендацыі да гэтых падручнікаў.

Сёння ў нашых школах карыстаюцца некалькімі методыкамі выкладання матэматыкі — як уласнымі, так і распрацаванымі на Украіне ці ў Расіі. Але Міністэрства адукацыі і яго метадычны цэнтр у леташнім інструктыўна-метадычным лісце рэкамендавалі карыстацца менавіта методыкамі Столяра. Бо з 1992 года беларускія школы пачалі пераходзіць на новы змест матэматычнай адукацыі. Дзеці, што пайшлі тады ў першы клас, цяпер вучацца ў чацвёртым, карыстаючыся падручнікамі, распрацаванымі паводле адзінай канцэпцыі Столярам і ягонымі паслядоўнікамі. Сёння працягваецца працэс стварэння серыі школьных падручнікаў, у якіх увасобленыя перадавыя ідэі нашых педагогаў. Гатовыя кнігі для 5, 6 і 7 класаў, рыхтуюцца для 8, 9, 10, 11 і 12. Гэта вельмі важна — мець поўны камплект падручнікаў, аб'яднаных адзінай ідэяй, кожны з якіх з'яўляецца працягам папярэдняга. Такім чынам забяспечваецца бесперапыннасць і паслядоўнасць працэсу навучання.

**— Але ў Беларусі ўжываюцца падручнікі і іншых аўтараў?**

Адказ на гэтае пытанне дала метадыст матэматыкі, фізікі, астраноміі ды інфарматыкі Валянціна Пермякова:

— Існуе серыя падручнікаў маскоўскага аўтара Віленкіна для 5–11 класаў. Цяпер у Маскве з'явілася яго серыя для класаў з 1 па 11. Частка нашых выкладчыкаў, якая раней карысталася яго методыкамі, цікавіцца новымі. Але новая праграма матэматыкі Віленкіна — гэта частка нацыянальнай праграмы сярэдняй адукацыі Расіі, якая ўводзіцца ў гэтым годзе. У Беларусі ж новая нацыянальная праграма была запачаткаваная значна раней — у 1992 годзе і менавіта для яе ствараліся новыя падручнікі Столяра і яго калектыва.

**— Ці можна параўнаць якасць серыі падручнікаў калектыва Столяра з іншымі?**

— Калі ў Маскве праводзілася выстава навучальнай і метадычнай літаратуры, — сказала Ірына Гімпель, — дык тамтэйшыя выкладчыкі выказалі вялікую цікаўнасць да методыкі Столяра. Пазней яны тэлефанавалі мне і пыталіся, ці ёсць магчымасць набыць тут гэтыя падручнікі для 1–4 класаў, выданыя па-расійску. А ўчора магчымасць закупкі ў нас гэтых падручнікаў вывучала настаўніца з Латвіі. І такіх прыкладаў вельмі многа.

*Ацэнка якасці беларускіх падручнікаў супрацоўнікамі сістэмы Міністэрства адукацыі і навукі і дырэкцыяй 199-й гімназіі яўна не супадае. Чым выклікана гэтае разыходжанне — невядома. Затое бацькі навучэнцаў 199-й гімназіі даведаліся: сёлета ў ёй не застанецца ніводнага беларускага 1-га класа. Выкладанне шэрагу дысцыплін у беларускіх класах, пачынаючы з пятага, будзе весціся па-расійску. Пэўна, хібы знайшліся і ў іншых падручніках?*

***Падрыхтаваў У.ПАНАДА.***



Актуальна

# "Псіхатропная бомба" пад нацыю

***Памятаецца, у жніўні мінулага года кіраўнік нашай дзяржавы прыняў рашэнне выключыць з сістэмы адукацыі падручнікі і дапаможнікі для школ узору 1992—1995 гадоў, бо нейкая засакрэчаная экспертная камісія прызнала іх палітызаванымі і тэндэнцыйнымі. Цяпер даведваемся,што ў макулатуру ўжо спісваецца школьнымі бібліятэкамі нават "Буквар" Анатоля Клышкі! А таксама "Беларуская мова" для трэцяга класа, "Гісторыя Беларусі" для восьмых — дзевятых класаў і іншыя кнігі. Неўзабаве чакаецца перагляд Закона аб адукацыі, не за гарамі і рэвізія самой Канстытуцыі... Пра гэтыя і іншыя набалелыя пытанні беларускай культуры гутарка са старшым навуковым супрацоўнікам лабараторыі навучання мовам Нацыянальнага інстытута адукацыі, намеснікам старшыні Менскай гарадской рады ТБМ Яўгенам Лаўрэлем.***

**— Яўген Мяфодзевіч, сацыяльна-палітычная і культурна-моўная сітуацыя ў краіне складваецца не найлепшым чынам. Юрыдычна мы — незалежная краіна і будуем быццам бы свой беларускі дом, а фактычна ідзем "у светлае мінулае", паколькі прымаюцца моцныя захады, каб скасаваць заваёвы адраджэнскага руху. Самым страшным мне ўяўляецца паварот да татальнай русіфікацыі грамадства — цераз школы, падручнікі і сродкі масавай інфармацыі. Якія думкі на гэты конт я магу пачуць ад прадстаўніка фронту педагагічнай навукі?**

— Сапраўды, дэ-юра — гэта яшчэ не дэ-факта. З устанаўленнем дзяржаўнасці ў нас шмат што пачало мяняцца. Мы атрымалі шанц для развіцця нацыянальнай культуры, у тым ліку і мовы ў якасці дзяржаўнай. Аднак шанц адрадзіцца застаецца пакуль што не выкарыстаным, бо, як Вы сказалі, урад усімі сіламі імкнецца скасаваць тое, што прынесла з сабою адраджэнне. Сённяшняя сацыяльна-палітычная сітуацыя дае падставы сцвярджаць, што з абвяшчэннем незалежнасці ў нас фактычна нічога не змянілася. Палітыка, якую праводзіў на Беларусі калісьці царызм, а затым камуністычны рэжым , працягваецца. Яе праводзяць шавіністычныя колы ў краіне з падачы суседняй краіны. Ставіцца мэта не дапусціць росту нацыянальнай свядомасці ў беларусаў, паколькі сёння, як паказаў чачэнскі досвед, усё залежыць не ад колькасці танкаў і ракет, а ад імкнення народа свабодна жыць і развівацца, адстойваць свае правы "на пачэсны пасад між народамі". А на гэта здольны толькі нацыянальна свядомы чалавек. Абвяшчэнне незалежнасці ў нечым нават пагоршыла наша становішча, бо развязала рукі шавіністам. Міжнародная супольнасць не можа ў такіх умовах за нас заступіцца. Што ж да культурна-моўнай сітуацыі, то скажу наступнае: пэўную частку насельніцтва Беларусі складаюць нацыянальна свядомыя беларусы, якія валодаюць расійскай мовай, але ў міжасобасных адносінах карыстаюцца толькі роднай. Другая частка насельніцтва, самая меншая, штучна адмежавалася ад беларушчыны і размаўляе — таксама свядома — толькі па-расійску. Найбольшую частку насельніцтва складаюць людзі, якія гавораць на "трасянцы". Калі прааналізуем сітуацыю далей, то ўбачым, што з усталяваннем ў краіне новага рэжыму пытанням эканомікі адводзіцца ўсё менш увагі, а ўсе сілы скіроўваюцца на тое, каб супрацьстаяць росту нацыянальнай самасвядомасці народа. З гэтай мэтай праводзіцца акцыі супраць нацыянальнай сімволікі, супраць беларускай мовы, супраць нацыянальнай школы і, вядома ж, супраць іншадумцаў — "нацыяналістаў". Палітыку дэнацыяналізацыі беларусаў мінулагодні рэферэндум толькі аблегчыў. Цяпер ставіцца новая глабальная задача: перагледзець нашу Канстытуцыю, законы, каб праводзіць далей прарасійскую шавіністычную палітыку.

**— Як ідзе падрыхтоўка да перагляду Закона аб адукацыі?**

— Вельмі інтэнсіўна. А чаму? Бо ў дзеючым законе запісана, што ўся сістэма адукацыі ў рэспубліцы павінна ажыццяўляцца на роднай мове. Як стала мне вядома ад намесніка старшыні Камісіі Вярхоўнага Савета па адукацыі і навуцы, аснова праекта новай рэдакцыі гэтага закона такая: на якой мове грамадзянін Беларусі захоча вучыцца, на той хай і вучыцца. Абавязковага навучання на беларускай мове ён не прадугледжвае. А гэта, як кажуць, мы ўжо праходзілі. Па сутнасці, такі закон у сённяшняй сітуацыі можа расцэньвацца, як замах на правы народа вучыцца на роднай мове.

А зараз хачу пацвердзіць прыкладамі тую аксіёму, што калі няма мовы, то няма і нацыі. Дык якая ж сувязь паміж мовай і самабытнасцю народа? Мы ведаем, што нацыі адрозніваюцца не толькі тым, што назвы адных і тых жа паняццяў і з'яў у іх мовах гучаць па-рознаму, а найперш тым, што розныя народы па-рознаму ўспрымаюць і асэнсоўваюць паняцці і з'явы. І таму мова кожнага народа захоўвае ўсё: і яго маральны досвед, і гістарычны досвед, і разуменне добрага, кепскага, разумнага, неразумнага. Вось чаму веданне роднай мовы — неабходная ўмова захавання самабытнасці. І яшчэ адзначу, што толькі на роднай мове чалавек можа сапраўды развіваць свой творчы патэнцыял. Часта можна пачуць такую думку: а якая розніца на якой мове вучыцца? На расійскай, нібы, нават лепш, бо літаратуры і інфармацыі на ёй друкуецца болей. Але розніца вялікая. Возьмем, напрыклад, словы, якія абазначаюць адно паняцце: *зязюля* і *кукушка*, *журавінка* і *клюква*. Пагадзіцеся,што ў беларусаў і расійцаў яны выклікаюць розныя асацыяцыі. Зязюля, напрыклад, у беларускай народнай творчасці звязваецца з паэтычным вобразам маладой дзяўчыны, у той час як у кантэксце, так бы мовіць, мыслення расійцаў яна асацыіруецца з жанчынай, якая не трымаецца сваёй сям'і, не глядзіць дзяцей і г.д. Возьмем другі прыклад. У расійцаў *клюква* асацыіруецца з кіслым смакам, таму і гавораць: "Ну, и клюковка", у беларусаў *журавінка* — з колерам (ружовым). І так па кожнай назве рэчы ці з'явы можна выявіць, якія асацыяцыі яны выклікаюць у абодвух народаў. Пры ўсёй семантычнай блізкасці расійскай і беларускай моў яны, па сутнасці, з'яўляюцца рознымі вобразнымі сістэмамі. Я ўжо не гавару пра ўнутраную форму слоў, аб якой "Наша слова" нярэдка пісала. Адсюль зразумела, чаму мова — ядро нацыянальнай культуры.

**— А якое значэнне мае для мастака ці музыканта веданне ці няведанне беларускай мовы?**

— Выходзіць, што мае, бо тады ён зусім па-іншаму ўспрымае свет, што робіць яго больш самабытным. І яшчэ адзін момант хочацца падкрэсліць. Ад мовы як ядра нацыянальнай культуры залежыць, наколькі гэта культура свабодна кантактуе з іншымі культурамі. Калі ядро моцнае, то культура народа свабодна звязваецца з культурамі, скажам, суседніх народаў і бярэ ад іх столькі, колькі можа засвоіць. Калі ж ядро слабое, то мова па закону самазахавання імкнецца да самаізаляцыі, аб чым сведчыць гістарычны вопыт — далёкі і блізкі. Прыкладам, калі звернемся да 60—70-х гадоў, то пабачым, што, нягледзячы на так званыя абмены культурным вопытам і розныя дэкады, наша нацыянальная культура, як шагрэневая скура , усё сціскалася і самаізалявалася, таму што сфера яе ўжывання была вельмі звужанай. Увогуле ж наша мова з'яўляецца своеасаблівым індыкатарам, паказчыкам нашай дзяржаўнасці. Як толькі ў жыцці грамадства роля яе павышалася, павышаўся і наш дзяржаўны суверэнітэт. Заняпад жа мовы сведчыў пра заняпад і дзяржаўнасці, што мы маем сёння.

**— Наша інтэлігенцыя балюча ўспрымае ўсё, што звязана з разбурэннем нацыянальнай сістэмы адукацыі ў рэспубліцы. Скажыце, а чаму так важна захаваць менавіта нацыянальную школу?**

— Тут трэба высветліць: што такое нацыянальная школа? Гэта калі школа, перш наперш, працуе на роднай мове. Дарэчы, тады яна з'яўляецца і дэмакратычнай. Школа, праўда, можа працаваць на роднай мове і не быць нацыянальнай па духу. Тым не менш некаторыя навукоўцы даводзяць, што нацыянальнай з'яўляецца нават школа, якая працуе на іншых мовах навучання, абы яна знаходзілася на Беларусі. Мы гэта прыняць, вядома, не можам. Больш таго, лічым, што за ўсе 70 гадоў савецкай улады ў нас не было ніводнай нацыянальнай школы. Стварыць мы іх пачалі ў апошнія пяць гадоў. Аднак сёння ўжо афіцыйныя колы робяць усё магчымае, каб знішчыць гэтыя першыя парасткі. Дык вось, **нацыянальная школа можа быць тады, калі ў ёй будуць створаны ўмовы для засваення навучэнцамі маральнага, гістарычнага, этычнага і эстэтычнага вопыту свайго народа**. Гэта значыць, што выхаванцы павінны расці нацыянальна свядомымі. Нацыянальная свядомасць — той стрыжань, які дазваляе чалавеку быць самім сабой, абстрактна мысліць, прагназаваць будучыню, абапіраючыся на культурны і гістарычны вопыт свайго народа, і не будзе слепа выконваць загад палітычных прайдзісветаў.

**— Якім павінен быць, на Ваш погляд, Закон аб адукацыі?**

— Трэба, каб ён, па-першае, быў дэмакратычным. Я не лічу, што ўсе сярэднія школы і дашкольныя ўстановы павінны працаваць на беларускай мове, але вышэйшая і спецыяльная прафесійныя школы павінны працаваць толькі на беларускай дзяржаўнай мове.У Амерыцы, напрыклад, вы можаце вучыцца ў любой школе: расійскай, украінскай, нямецкай, польскай і г.д., аднак ужо каледжы і універсітэты працуюць там толькі на англійскай мове, бо рыхтуюць спецыялістаў для сваёй дзяржавы. І так ва ўсіх краінах. І ў нас так павінна быць. Нядаўна я пачуў па радыё каментар чыноўніка з Міністэрства адукацыі, што ў гэтым навучальным годзе пры паступленні ў нашы вышэйшыя навучальныя ўстановы абітурыенты будуць самі выбіраць, на якой мове ім здаваць экзамены. На гэтых жа ўмовах дазваляецца і грамадзянам Расіі паступаць у нашыя ВНУ. Гэтым самым, па сутнасці, уводзіцца двайное грамадзянства — грамадзяне Расіі маюць права на атрыманне бясплатнай вышэйшай адукацыі ў Беларусі. Так што праект новага закона аб адукацыі ўжо дзейнічае як закон. Якая спешка! Яно і зразумела: трэба ж неяк збіць хвалю студэнцкага патрыятычнага руху, не дапусціць беларусізацыі вышэйшай школы, адкрыць новую крыніцу сілкавання "пятай калоны". Ну а тыя жыхары Беларусі, якія захочуць паступаць у ВНУ Расіі, будуць адгароджваць сябе ад беларускай мовы, бо не сунешся ж з "трасянкай" на конкурс. Па-другое, нашы абітурыенты, асабліва вяскоўцы, зараз пастаўлены ў складанае становішча. Яны горш валодаюць расійскай мовай, а тыя, хто вырашыць здаваць па-беларуску, сустрэнуцца з выкладчыкамі, якія або не ведаюць беларускай мовы, або яе не любяць. Будзьце ўпэўнены, яны знойдуць спосаб паніжаць абітурыенту ацэнку. Гэтай пастановай аб быццам бы свабодным выбары мовы навучання падрэзваецца аснова нашай нацыі. А калі глыбей браць, то і асновы нашай дзяржаўнасці. Вось чаму сёння мы ўсе павінны добра ўсвядоміць: такі закон, калі ён будзе прыняты, дашчэнту разбурыць нацыянальную сістэму адукацыі. Практычна зараз будзе адна мова ў школе, бо нашто беларускія школы, калі спецыяльнасць трэба атрымоўваць толькі на расійскай мове. І гэта самае страшнае. Я ўжо не кажу, што культура нацыі будзе вельмі паніжацца, таму што практычна ў чалавека бывае адна рабочая мова.

**— З якога класа, на Вашу думку, у беларускай школе павінна вывучацца расійская мова?**

— Калі гаварыць шчыра, то яна павінна вывучацца факультатыўна. Але на пераходным этапе, думаецца, можна было б даць курс арфаэпіі і правапісу дзесьці ў 7— 8 класах. А лексічным багаццем гэтай мовы вучні будуць авалодваць самастойна, як, дарэчы, яны самастойна авалодваюць і лексікай роднай мовы. Уводзіць у школах з першага класа дзве блізкія мовы — гэта злачынны эксперымент, пры дапамозе якога мы асуджаем народ на самаразбурэнне. Калі з першага класа даваць дзецям другую блізкую мову, то вобраз, які выклікаецца родным словам, — разбураецца, што адмоўна адбіваецца на развіцці інтэлекту дзіцяці.

Чалавек, а дзіця тым больш, — гэта своеасаблівы кампутар для вывучэння мовы, але адной, і ставіць пытанне,што кожны чалавек павінен змалку вывучаць дзве блізкія мовы, вельмі праблематычна. У дзіцяці яшчэ не сфарміраваўся артыкуляцыйны апарат, а мы ўжо падсоўваем яму другую блізкую мову. Для вывучэння дзвюх, а то і трох моў павінны быць спецыялізаваныя школы, як,прыкладам, ужо існуюць музычныя, мастацкія, матэматычныя, куды адбіраюцца дзеці па пэўных тэстах.

**— Важна ж яшчэ мець на ўвазе і выхаванне маральна-этычных якасцяў асобы.**

— Так. Самая вялікая бяда, што мы сёння разбураем мараль. Калісь у беларусаў існавалі паважлівыя адносіны да людзей, талерантнасць і г.д. Сёння ўсё гэта разбураецца. З аднаго боку, мы крычым пра талерантнасць беларусаў, а з другога — імкнёмся выбіць з яго гэту ўласцівасць нацыянальнага характару, змяніць яго самабытнасць, яго псіхалогію сілай і выхаваць манкуртаў, якія здольныя страляць у родную маці і сваю Бацькаўшчыну. Кажуць, што сталася нацыі не толькі ў тым, колькі яна вылучала слынных людзей, а ў тым, як яна шануе памяць пра іх. Наша нацыянальная эліта гэта добра разумее! За апошнія пяць гадоў Беларусі вернуты сотні забытых імён, але трэба яшчэ ведаць здраднікаў і злачынцаў. Вось чаму на "круглым стале", які адбыўся 14 чэрвеня ў Доме літаратараў, было вырашана завесці "Белую кнігу", куды павінны заносіцца імёны ўсіх тых, хто прычыняецца да разбурэння нацыянальнай сістэмы адукацыі, выступае супраць дзяржаўнасці беларускай мовы. Пара спыніць гэтую мімікрыю прыстасаванства. Мы сёння знаходзімся ў такіх складаных умовах яшчэ і таму, што не выкрыты канчаткова культ асобы — рэжым адкупіўся некалькімі дзесяткамі імёнаў. А гадаванцы тых невядомых пракурораў, суддзяў і катаў б'юць нас, нацыянальна свядомых людзей, па галовах, займаюць начальніцкія крэслы і намі кіруюць.

**— Які Ваш прагноз на будучыню? Што нас чакае?**

— Я ўвогуле аптымістычна гляджу ў будучыню. За апошнія пяць гадоў мы столькі даведаліся пра сябе і выдалі столькі літаратуры, колькі не выйшла за ўсю тысячагадовую гісторыю. Таму працэс станаўлення нацыі назад павярнуць нельга. Новыя пакаленні беларусаў будуць звяртацца да сваёй спадчыны і станавіцца нацыянальна свядомымі. Прывяду за прыклад сябе. У студэнцкія гады мне трапіла ў рукі кніжачка У.Ігнатоўскага "Гісторыя Беларусі", з якой я даведаўся, што мы — вялікі народ. Яшчэ да Першай сусветнай вайны нас было 14 мільёнаў. Кніжачка гэта адыграла ў маім жыцці паваротную ролю.

Вядома, нацыянальна свядомых людзей у нас не так і многа, але менавіта яны вызначаюць аблічча нацыі. Што да беларусаў, то гэта хлусня, што яны выракаюцца сваёй мовы. Паглядзіце, калі пачалі адраджаць на пачатку 90-х гадоў беларускую школу, супрацьлення не было. І сёння яго няма. Аднак любы калгаснік разумее: навошта вучыцца той мове, якая нідзе не патрэбна. Мова або запатрабавана ў грамадстве, і тады яе будуць вывучаць усе без выключэння, або не запатрабавана, і тады яе ніхто не будзе вывучаць. Ідэя нашай незалежнасці павінна быць заснавана на інтэграцыі ўсіх жыхароў рэспублікі на аснове беларускай мовы і культуры. Інакш нас напаткае трагедыя, якая ўжо неаднаразова адбывалася з іншымі народамі, што сышлі з гістарычнай арэны.

**Распытвала Ірына КРЭНЬ.**

Беларускае замежжа

# З гісторыі гомеапатыі

*Сёння мы даём слова спадару Лаўрэну Клыбіку, нашаму суайчынніку, вядомаму фармацэўту-гомеапату з Бельгіі*

Гомеапатыя — слова грэцкага паходжання, складаецца з двух слоў: homoios— падобны, pathos — хвароба, што азначае "лячыць падобным". Класічную медыцыну называюць алапатыя, дзе allos — другі, pathos — хвароба, гэта азначае "лячыць супрацьлеглым".

Стварыў гомеапатыю нямецкі лекар Самуіл Ганэман. Ён нарадзіўся 10 красавіка 1755 года ў Майсане, у Саксоніі. Бацька яго, размалёўшчык парцаляны, быў недастаткова багаты, каб аплачваць школу. Але гарадскія ўлады аплачвалі яго навучанне ў школе і далей, калі Ганэман вывучаў медыцыну, бо ён быў вельмі здольным, таленавітым вучнем.

З 1775 года вучыцца ва універсітэце ў Лейпцыгу, затым у Вене, Леапольдштаце, дзе пачаў медычную практыку. Ведаў некалькі замежных моваў, рабіў пераклады з французскае, англійскае і іншых моваў на нямецкую.

Быў двойчы жанаты. Меў 11 дзяцей. Другой жонкай стала яго пацыентка, якую ён вылечыў, якая прыязджала лячыцца да яго з Парыжа. Самуіл Ганэман быў вельмі вядомым лекарам. Хворыя прыязджалі да яго з розных краін. У 1835 годзе пераехаў у Парыж, дзе працягваў працаваць як лекар-гомеапат з вялікім поспехам.

Памёр 2 ліпеня 1843 года. Меў 89 год. Пахаваны на могілках Пэр-Лашэз у Парыжы.

На працягу ўсяго жыцця Ганэман займаўся рэфармаваннем тагачаснай медыцыны. Ён звяртаў увагу дактароў на значэнне гігіены і дыетычнага рэжыму для хворых, змагаўся з паліпрагмазіяй, выступаў супраць насілля над псіхічнымі хворымі, класіфікаваў сімптомы лекавай інтаксікацыі і г.д. Займаўся доследамі.

Першымі навуковымі працамі былі такія:"Этыялагічныя і тэрапеўтычныя разважанні аб спазмавых хваробах", "Атручванне арсэнікам і як яго лячыць".

Вывучаючы на сабе і сваіх вучнях уздзеянне вялікіх дозаў хініну, заўважыў, што ён выклікае сімптомы гарачкі, падобныя да тых, пры малярыі, супраць якіх хінін ужываўся як тэрапеўтычны сродак. Ганэман працягваў рабіць доследы і на іншых леках (беладонна, арсэнікум, дыгіталіс, стрыхнін, жывое срэбра і інш.) і прыйшоў да высновы, што лекі ў малых дозах могуць вылечваць сімптомы, якія яны самі выклікаюць, калі ўжываюцца ў вялікіх дозах. Прынцып падабенства стаўся адным з галоўных у гомеапатычным лячэнні.

Пасля многіх гадоў доследаў Ганэман прыйшоў да высновы, што неабходна ўжываць бясконца малую дозу лека, дынамізаваную праз устрэсванне. Ён лічыў, што хворы арганізм больш востра рэагуе на раздражненні, у тым ліку і на лекавыя. Гомеапаты імкнуцца давесці дозу лека да мінімальнай, на якую рэагуе жывая пратаплазма і нервовая сістэма. Напрыклад, вядома, што споры лекаподыя ў натуральным стане ўжываюцца толькі як прысыпка для малых дзяцей. Калі ж ён прыгатаваны па гомеапатычных правілах, то становіцца магутным сродкам і прымяняецца пры хваробах печані, падстраўнікавай залозы і г.д.

Ганэман лічыў, што раўнавага ўсіх працэсаў у арганізме падтрымліваецца жыццёвай сілай, жыццёвай энергіяй. Матэрыяльны арганізм без жыццёвай энергіі, сілы няздольны да дзеяння. Хвароба — гэта парушэнне раўнавагі жыццёвай энергіі. Мэта лекара-гомеапата — вяртанне жыццёвай энергіі да раўнавагі.

Пры назначэнні лекаў гомеапаты зыходзяць з цэласнасці арганізма. Яны ўлічваюць асаблівасці будовы цела і тэмперамент хворага, асаблівасці працы і жыцця, схільнасць да паталагічных з"яў, сілкаванне і абставіны, пры якіх з"явілася хвароба або з"яўляюцца сімптомы (на халодным і сухім ветры, перад навальніцай, уначы, зімой і г.д.). У залежнасці ад гэтага даюцца розныя лекі.

Сярод гомеапатаў няма дзялення на кардыёлагаў, пульманолагаў, дэрматолагаў і г.д.

Колькасць лекаў павінна быць мінімальнай. Лепш за ўсё, каб гэта быў адзін лек, назначэнне больш за 3-4 лічыцца няправільным.

Гомеапатычныя лекі гатуюцца ў выглядзе парашкоў, вадкасцяў, глобулек, мазяў. Выкарыстоўваюцца сродкі мінеральнага, жывёльнага, расліннага паходжання. Расліны збіраюць у час цвіцення, калі пупышкі яшчэ не зусім распусціліся. Ужываюць свежую расліну (карэнні, сцябло, лісце, кветкі). Колькасць лекаў, якімі карыстаюцца гомеапаты, перавышае 2500.

Свой вялікі клінічны і эксперыментальны матэрыял Ганэман выклаў у знакамітай працы "Чыстае леказнаўства" ў 6 тамах, якая стала кодэксам для лекараў-гомеапатаў, і "Арганон лекарскага майстэрства", дзе выкладзены асноўныя прынцыпы гомеапатыі.

Выказаўшы кароткія разважанні аб прынцыпах гомеапатыі і гомеапатычнага лячэння, я хачу закрануць тэму радыяцыі, вынікі якой адчувае вялікая частка насельніцтва нашай Бацькаўшчыны. Мяне, фармацэўта-гомеапата, цікавіла пытанне стварэння лека недарагога, няшкоднага, з дапамогай якога можна лячыць хваробы, што ўзніклі ў выніку радыяцыі. Паводле Ганэмана, гэта магчыма рабіць з дапамогай гомеапатычнай медыцыны.

З апрамененай лактозы і алкаголю я прыгатаваў лек. Назваў яго RACK. Першы дослед быў зроблены на сабаку, якому гісталагічна быў пастаўлены дыягназ: рак. Стан сабакі быў цяжкі, калі ветэрынары BELLEMANS і BLANCHIE збіраліся рабіць аперацыю.Па маёй прапанове перад аперацыяй сабаку далі прэпарат RACK 30 к. Выдаліць пухліну не ўдалося ў сувязі з тым, што было множства метастазаў. Але сабака паправіўся. Жыве ўжо амаль два гады.

У красавіку 1995 года лекар SACRE прыпісала RACK хвораму на рак шчытападобнай залозы. Хворы працаваў на атамнай электрастанцыі. Праз месяц ён адчуў сябе значна лепш. 24 красавіка 1996 года доктар паведаміла, што яе хворы адчувае сябе добра.

Трэці выпадак. Доктар UMBERECHIS, намеснік старшыні сусветнай асацыяцыі гомеапатаў, даў сваёй пацыентцы, якая хварэе на рак 2 гады, RACK 30 к і 200 к у 1994 годзе. Хворая адчувае сябе лепш.

Я ўсведамляю, што вышэй прыведзеныя выпадкі дастатковага перакання, каб ужо казаць аб выключнай эфектыўнасці лека RACK. Але ж яны даюць надзею, хоць пакуль і маленькую, што выбраны метад гомеапатычнага лячэння пухлін можа быць карысным. Гэты метад яшчэ ў зародкавым стане. Яго трэба развіваць супольнымі сіламі шматлікіх лекараў.

**Лаўрэн КЛЫБІК.**

Згадкі

# Жыццяпіс генерала

***Рапарт генерала Станіслава Булак-Балаховіча 7.XI1.1929 г. Мой жыццяпіс і мая дзейнасць да часу сусветнай вайны, у час сусветнай вайны і ў мірны час.***

*(Заканчэнне. Пачатак у № 28)*

У 1905 годзе маю сям"ю спасціг першы ўдар. Мае стрыечныя браты, Ян 22-х гадоў і Павел 19-ці гадоў, у час рэвалюцыйнага руху належалі да рэвалюцыйнай партыі. Мой дзядзька па бацьку ў той час жыў з сям"ёю ў Рызе. П"яны расійскі афіцэр з некалькімі жаўнерамі, робячы агляд у братоў і нічога там не адшукаўшы, хацеў змусіць іх да сведчанняў і біў брата Яна. Брат Ян застрэліў афіцэра і двух расійскіх жаўнераў. Ён быў схоплены разам з братам Паўлам, які спрабаваў яго бараніць, і быў асуджаны на смерць праз павешанне. Перад выкананнем прысуду дзядзька мой с.п. Людвіг прасіў улады аб дазволе развітацца з сынамі і калі абняў сына Яна з крыкам "вазьміце маё жыццё за сыноў!", упаў мёртвым. Пасля гэтага здарэння браты Ян і Павел атрымалі замену смяротнай кары на катаргу. Праз колькі год Павел памёр ад сухотаў, а Ян быў высланы ў Сібір. У ссыльцы на працягу 6 гадоў ён быў у адной ваколіцы з дэпутатам Анушам. Як мне вядома, цяпер брат Ян жыве ў Маньчжурыі і працуе ў антысавецкіх арганізацыях.

Гэтыя факты я згадваю таму, што яны ў значнай ступені паўплывалі на маю псіхіку, і з таго часу я стаў безагляднa выступаць супраць усіх, хто пасягае на вольнасць люду. Яны таксама мелі вялікі ўплыў на мае дзеянні пасля сусветнай вайны, як па першым, так і па другім перавароце. Разумнае і справядлівае стаўленне да навакольных сялян у час забурэнняў 1905 года і мае выступленні супраць тых, хто не прызнаваў чужога права на ўласнасць, далі мне сярод вяскоўцаў Дзісенскага павета мір і павагу так трывалую, што ў час вайны шмат людзей з той ваколіцы служыла пад маім камандаваннем, а ў час абароны Польшчы ў 1920 годзе яны спрыялі не адной перамозе, дзеючы на маю карысць у тылах бальшавіцкіх войскаў. Людзям з той ваколіцы я таксама ўдзячны за тое, што яны хавалі двух маіх сыноў і дачку, асуджаных да расстрэлу бальшавікамі. Я ў той час жыў у свайго дзеда з боку маці ў Лужках на Віленшчыне. Быў жанаты, ажаніўся ўпершыню з дачкою лекара з Лужкоў Марцінай Харбелай 21 жніўня 1905 года. З гэтага сужонства нарадзілася дачка і сын Медард, які па сканчэнні кадэцкага корпуса ў Хелме знаходзіцца ў школе падхарунжых кавалерыі ў Грудзёндзу. А 12 ліпеня 1911 года нарадзіўся сын Генрык, цяпер кадэт у Львове. З першай жонкай я жыў паасобку з 1913 года, хварэла яна на рак і памерла ў 1915 годзе.

У час міру на пасадзе паўнамоцнага адміністратара я арганізаваў добраахвотную пажарную варту ў маёнтку і мястэчку Лужкі, якой я кіраваў да вайны. У траўні 1914 года я кіраваў вартай і ваколічнымі сялянамі, стрымаўшы вялікі пажар у дзяржаўных лясах і абараніў ад знішчэння лясы, належныя да Гародка і Лужкоў. У ліпені 1914 года, пасля абвяшчэння мабілізацыі, я на чале пажарнай варты стрымліваў тысячную масу пакліканых рэзервістаў, якія на дарозе рабавалі і спрабавалі напасці на магазін у Гарадку. Умелая дзейнасць дала магчымасць суняць без войска і страляніны разагітаваны тлум рэзервістаў... Начальнікам павятовай паліцыі ў той час быў Сімановіч. Памочнікам каменданта быў Беларайцаў, польскі грамадзянін, які цяпер жыве ў Вільні. Беларайцаў можа засведчыць маю дзейнасць на пасадзе адміністратара і той мір і паслушэнства, якое тады панавала па ўсім павеце. У 1908 годзе я асабіста схапіў і перадаў у рукі ўладаў небяспечнага кіраўніка банды рабаўнікоў Цесту, вядомага абрабаваннем гатэля на Каўказе і шэрагам забойстваў і рабункаў, які шмат разоў уцякаў з рук справядлівасці.

## Служба ў вайсковых фармаваннях расійскай арміі

Па звароце Вялікага князя Мікалая Мікалаевіча да палякаў 20 жніўня 1914 года я выступіў як ахвотнік з групай палякаў з Дзісеншчыны на ўласных конях з амуніцыяй і зброяй. Звярнуліся да кіраўніка войскаў Дзісны: я, маёр Юры Дуброўскі (цяпер камандзір швадрону межавай варты ў Дзісеншчыне Віленскай зямлі) с.п. палеглы на вайне Тадэвуш Мацкевіч і с.п. брат мой Юзаф. Я быў скіраваны на шкаленне ў 53-і батальён у Полацк. Батальёнам камандаваў каўказец палкоўнік Мірманаў. 18 лістапада 1914 года я прыбыў на фронт на загад дзяжурнага генерала Дынабургскай акругі. Быў прыпісаны да 2-га ўланскага і кавалерыйскага палка. Службу адбываў у 5 швадроне, 3 плутоне. Браў удзел у баях на Бзуры, першую баявую адзнаку атрымаў за бой у Сахачове 3 снежня. Прастудзіўшыся ў выведцы, я лячыўся ў шпіталі, зладжаным Транізінам перад галоўным вакзалам. Калі 2-я кавалерыйская дывізія была перакінута пад Астралуку, я, даганяючы свой полк, быў скіраваны пад Прасныш. Браў удзел у баях каля Краснага, дзе саборскія палкі гнуліся пад вёскай Зялёнае і 15-я кавалерыйская брыгада ў дзень 13 лютага. Там таксама я пазнаёміўся з будучым камандзірам 4-га палка палкоўнікам Мікалаевым. Па сканчэнні бою я быў прыняты на начлег у маёнтку Чорны Стаў гаспадара Марыюша Гняздоўскага, які мяне сардэчна прыняў як паляка. З Марыюшам Гняздоўскім я пасябраваў, а пазней, у 1920 г., ён ахвотнікам служыў у маім кавалерыйскім аддзеле. Я, як ахвотнік, атрымаў тры крыжы св. Георгія 4, 3 і 2-й ступеняў — два срэбраныя і адзін залаты. У той час я быў паранены ў час бою пад Ваврам. 2-я кавалерыйская дывізія ў красавіку была перакінутая да Кейданаў, там я здолеў адзначыцца пад час выведкі. Мне, ужо падафіцэру-ахвотніку, давяраліся складаныя заданні. Так, 30 траўня я з 30 коннікамі праравўся праз нямецкі фронт дзеля наладжвання сувязі з 79-й дывізіяй ген. Гаўрылава. Штаб стаяў у Эйраголе, туды я правёў плутон без стратаў праз нямецкі заслон у вёсцы Іглішы, захапіўшы языка, і ў той самы дзень яшчэ з адным даручэннем на кані, якога выменяў у грамадзяніна Лаўрыновіча, прарваўся праз занятыя немцамі Крокі і даставіў у штаб патрэбныя звесткі пра сітуацыю. Камандзірам швадрону ў той час быў ротмістр, цяпер палкоўнік на пенсіі, паляк Уладыслаў Маздзяевіч, што жыве ў Пазнані. Камандзірам быў палкоўнік Велькапольскі, расстраляны бальшавікамі, намеснікам камандзіра палка палкоўнік Каратаеў. У час баёў пад Коўнам каля вёскі Сердыкі я быў паранены куляю ў плячо ноччу 9 чэрвеня 1915 года. Будучы ў выведным атрадзе, я аказаўся акружаным немцамі, аднак прарваўся і ў час паведаміў аб рыхтаваным на нас нападзе. Параненым браў удзел у адбіцці начной атакі і за гераізм быў прадстаўлены да афіцэрскага чыну. У дзень 9 ліпеня 1915 года атрымаў першы афіцэрскі чын за гераізм са старшынствам ад 9 чэрвеня 1915 года. У дзень 17 ліпеня 1915 года я як афіцэр, камандзір 3-га плутона, прарваўся ў тыл нямецкіх войскаў пад Канстанцінавам, здабыў табары нямецкай гвардыі аднаго з кавалерыйскіх палкоў, пасёкшыся ў конным шыхце з кавалерыйскім заслонам і захапіўшы ў палон 15 немцаў, 4 фургоны харчоў і палкавую касу. З малымі стратамі я пратрымаўся да прыходу з дапамогаю 5-га швадрону палкоўніка Мацевіча. Атрымаў першую афіцэрскую ўзнагароду — цемляк св.Анны за адвагу і прызначэнне на камандзіра 3-га плутона 5-га швадрона таго ж палка. У дзень 30 жніўня 1915 года ў час контратакі на вёску Лепаляты на Ковеншчыне я быў кантужаны цяжкім снарадам і лячыўся ў Кейданах. Балесныя вынікі гэтай кантузіі я адчуваў паўтара года. У той час бацькі мае жылі ў фальварку Стакоп"ева Браслаўскага павета, адкуль былі расійскім урадам разам з усім набыткам пераселены да Арзамаса Ніжагародскай губерні. Прычынаю таму, здаецца мне, былі чуткі, што брат мой Мечыслаў, які ў бітве пад Варшавай згінуў без вестак, здаўся ў палон. Ён быў ахвотнікам у адным з палкоў. Брат мой Юзаф, вылечыўшыся ад ран, атрыманых у 1914 годзе, і па сканчэнні вайсковай школы, камандаваў ротай у 7-м палку пяхоты.

2-я кавалерыйская дывізія была перакінутая на Дынабургскі фронт. Я адзначыўся ў час адступлення, камандуючы плутонам ля Фрынрахштата і Якабштата. Асабліва шмат здолеў я зрабіць, бо ведаў літоўскую мову, у лясах ля станцыі Далдзёлес. На працягу двух тыдняў удала і паспяхова я абараняў гэтую пазіцыю, нямецкае войска стаяла па адзін бок лясоў, а па другі — мы. На пачатку верасня дывізія стала над Дзвіною пад Дынабургам. Яе штаб месціўся ў карчме ў Дуні. Я атрымаў дазвол наведаць выселеных у глыбіню Расіі бацькоў, каб развітацца з імі.

Было гэта ў час так званага прарыву нямецкіх войскаў — Свянцянскага прарыву. З адзіным ардынарцам Салаўёвым я дабраўся да мястэчка Відзы ў момант, калі немцы ўжо падыходзілі. Бацькі ў фальварку я ўжо не заспеў, інвентар ягоны ўжо быў прымусова вывезены за мястэчка Бой. Я спаткаў бацьку ў мястэчку Відзы, заехаў, каб развітацца з маці, у фальварак Стакоп"ева, адтуль праз Козань, Шаркоўшчыну паехаў да маёнтка Гаравісушкі, куды эвакуавалі ўвесь інвентар. Я наведаў дзяцей і дзядоў. Дзеці нейкі час былі пад Полацкам, адтуль вярнуліся да Лужкоў. Я набыў некалькі коней ў Платэраў і вярнуўся ў полк, прыняўшы да сябе на службу аднаго з маіх былых выхаванцаў з добраахвотнай пажарнай варты, Кубу Шасеневіча, татарына, які з таго часу стаў маім

*(Заканчэнне на с.8.)*

# Кола сям'і

*Масару ІБУКА*

## Пасля трох ужо позна

*(Працяг.)*

### Сваркі развіваюць у дзіцяці ўменне зносін

Часта гавораць, што чалавек — прадукт грамадства і што ён не можа жыць па-за ім. Але, з другога боку, ім кіруе не толькі інстынкт жыць у групе, але і ўсведамленне свайго "Я". Такім чынам, ён заўсёды мусіць шукаць гармонію між грамадскім і індывідуальным. Калі баланс не будзе ўстаноўлены, ён не зможа прыстасавацца да грамадства.

Дасягненне гэтай гармоніі залежыць ад ранняга развіцця. Я лічу, што яго можна дасягнуць толькі на падставе рана сфармаванага стэрэатыпа мыслення, які ўключае права на павагу да сябе і пачуццё адказнасці ў адносінах да грамадства. Такі стэрэатып можна стварыць на аснове дзіцячых зносінаў.

Прыкладна ў 2 гады дзіцяці робіцца нецікава гуляць толькі з самім сабой — пачынае гуляць з іншымі, і тут яно ўпершыню даведваецца, як узаемадзейнічаць у групе. Яно можа расплакацца, калі яму не ўдалося зрабіць па-свойму, а давялося падпарадкавацца жаданню большасці. Але і калі яно ладзіць з іншымі, і калі сварыцца, яно вучыцца жыць у калектыве. Сваркі важныя, таму што яны развіваюць асабістую ініцыятыву.

Сваркі між дзецьмі можна падзяліць на тры тыпы: такія, у якіх дзіця перамагае саперніка, дзе яно саступае другому, дзе яно дае здачы.

Розныя віды сваркі характэрныя для рознага ўзросту. Напрыклад, ва ўзросце 2 гадоў дзіця хутчэй за ўсё будзе пасіўным удзельнікам сваркі, а ўжо ў 3 гады яно само не спраўкуе. Гэта будзе азначаць, што ў ім фармуецца і выказваецца яго ўласнае "Я".

Існуюць розныя прычыны нязгоды між дзецьмі: барацьба за цацку, санкі, арэлі ці слоўная абраза, але сварак без прычыны не бывае. Любая спроба лаяць дзіця, вучыць яго, што біцца нядобра, без тлумачэння прычын не дапаможа развіць у ім пачуццё супрацоўніцтва. Можна нават сказаць, што ўмешвацца ў сваркі дзяцей — значыць перашкаджаць развіццю інстынкту жыць у калектыве.

У дзяцей свая логіка, і зносяцца яны адно з адным па-свойму. Тут няма месца дарослай логіцы. Калі вы будзеце разглядаць дзіцячыя сваркі з пункту гледжання дарослых, спрабаваць угаварыць дзіця, што біцца нельга і што той, хто сварыцца з іншым — благі, ваша дзіця толькі замкнецца ў сабе і зазлуе. Сваркі — гэта першы ўрок жыцця ў калектыве.

### Даваць пляскача дзіцяці можна толькі пакуль яно яшчэ маленькае

"Дурны кароль у акружэнні слепа адданых міністраў", — так нехта апісаў нованароджанага і яго бацькоў, якія падпарадкоўваюцца кожнаму яго жаданню.

Які б ні быў кароль дурны, пакуль ён яшчэ зусім маленькі і амаль увесь дзень спіць, бацькам з ім не так цяжка. Аднак да 2 — 3 гадоў ён можа зрабіцца такім эгаістычным,што будзе амаль некіруемы. І тады бацькі пачынаюць "зацугліваць" сваё дзіцятка. Яны лаюць і караюць малое, калі яно робіць нешта "няправільнае", і ператвараюцца раптам з гарачых прыхільнікаў у суровых нянек, хаця на гэтай стадыі развіцця дзіцяці гэта ўжо не дае бачных вынікаў.

Бацькі, магчыма, самі не ўсведамляючы таго, сапсавалі яго, калі паводзілі сябе як "слепа адданыя міністры" на працягу першага года жыцця дзіцяці. Прыкладна ў 2 — 3 гады ў дзіцяці развіваецца пачуццё ўласнай годнасці, яго "Я", і тады дзіця гатовае яго адстойваць. Яно больш не слухаецца бацькоў, і чым больш яго лаюць і караюць, тым больш непаслухмяным і капрызным яно робіцца і тым мацней злуюцца яго бацькі. Каб пазбегнуць развіцця гэтага заганнага кола, ёсць толькі адно выйсце — выхоўваць і прывучаць дзіця да дысцыпліны, пакуль яму яшчэ няма года, да таго як у ім праявіцца ягонае "Я".

Прывядзём просты прыклад. Дзіця павінна есці строга паводле раскладу, тады яно не будзе перайадаць і хутка пазбавіцца ад звычкі мачыцца ў ложак. І вам не трэба будзе прыкладаць лішнія намаганні, каб змагацца з гэтай звычкай. Калі ж не звяртаць на гэта ўвагі, вызнаваць прынцыпы "вольнага" выхавання, гэта можа прывесці да катастрофы для дзіцяці.

Ва ўзросце да аднаго года малечу не абражаюць фізічныя пакаранні. І, наадварот, 2 — 3 -гадовае дзіця востра рэагуе, калі яму даць плескачоў. Таму, калі спярша песціць дзіця, а потым раптам зрабіцца строгім, гэта толькі распаліць у ім пачуццё пратэсту. І вынік будзе зваротны, у параўнанні з тым, якога чакаюць бацькі.

Значыць, даваць пляскача дзіцяці можна толькі пакуль яно яшчэ занадта малое і не можа ўспрыняць гэта як абразу.

*(Працяг будзе).*

*Але!*

## Алергія на беларускасць, ці Золата ў макулатуру

Помню, калі вучыўся ў малодшых класах, было на клас па некалькі падручнікаў, якімі вучні дзяліліся і перапісвалі практыкаванні ў сшыткі. (Праўда, з расійскамоўнымі падручнікамі заўсёды было лягчэй.)

Цяпер мы сталі багатыя: новыя, некарыстаныя кніжкі (хай і выданыя пару гадоў таму) школьныя бібліятэкі масава здаюць на макулатуру і адпраўляюць на Заслаўскую карданажную фабрыку: "Буквар" Анатоля Клышкі, які вытрымаў не менш за дзесяць выданняў, падручнік для 3-га класа "Беларуская мова", "Гісторыя Беларусі" для 8 — 9-х класаў...

З гэтым апошнім усё зразумела: ворагам беларускай дзяржаўнасці, увогуле беларушчыны, выхаваным на савецкіх праімперскіх падручніках, гэты падручнік, дзе выкладзена праўдзівая гісторыя нашага краю, недаспадобы, больш таго, ён, мабыць, выклікае ў іх алергію.

А "Буквар", а "Беларуская мова"?.. У гэтых жа — ніякай палітыкі, ніякай ідэалогіі, акрамя эстэтычных задач выхавання ў малых любові да роднага краю, пазнавальнага і агульначалавечага сэнсу. Для нармальнага грамадства — гэта ж норма!

Добра, што Анатоль Клышка распрацаваў новы буквар, і ён выдаецца да новага навучальнага года. А той, які быў у свой час новым словам у педагогіцы, быў адзначаны міжнароднымі прэміямі (сярэбраны медаль на ВДНГ СССР, залаты медаль на міжнародным Лейпцыгскім кірмашы)? Такіх падручнікаў для дзетак, прыдатных нават для дашкалятаў, заўсёды неставала. Чаму б тыя з іх, што залежваюцца ў бібліятэках расійскамоўных школ, дзе яны не шануюцца, не аддаць школам беларускамоўным, бацькам, дзіцячым садкам? Урэшце, не пусціць у продаж? Бо добрая кніжка, на выданне якой ідуць вялікія сродкі, заўсёды будзе патрэбная. Я ўпэўнены, што сацыяльна-палітычная сітуацыя ў краіне зменіцца.

У цывілізаваных краінах школьны настаўнік мае пад рукамі некалькі альтэрнатыўных падручнікаў і карыстаецца імі паводле свайго разумення і падыходу да асобаў сваіх вучняў. Ці ж састарэюць такія выхаваўчыя сентэнцыі з "Буквара" Анатоля Клышкі са старонак, дзе надрукавана "просьба кніжкі": "не бяры мяне нямытымі рукамі", "не вырывай маіх старонак" і інш. Так і хочацца працягнуць серыю гэтых просьбаў-павучанняў яшчэ адной: "не здавай мяне на макулатуру — я яшчэ спатрэблюся".

Інфармацыя, якая прайшла ў газеце "Свабода" ад 28 чэрвеня 1996 года пад загалоўкам "Падручнікі ідуць пад нож", устрывожыла грамадства. Дырэктар навуковаметадычнага Цэнтра вучэбнай кнігі і сродкаў навучання Міністэрства адукацыі РБ сп. Б.Шабановіч прызнаў, што ў іх Цэнтр пастаянна тэлефануюць з рэдакцый і інфармацыйных агенцтваў, і патлумачыў, што ў Заслаўе на карданажную фабрыку, куды сцякаюцца падручнікі на макулатуру, выязджала камісія і ў выніку праверкі пацвердзіла факт, што з некаторых школьных бібліятэк Менскай вобласці сапраўды вывозяць туды спісаныя падручнікі, у тым ліку і названыя ў публікацыі "Свабодай". У прыватнасці, гэта зрабіла СШ № 2 Заслаўя.

"Будзем разбірацца", — запэўніў спадар Шабановіч.

Хочацца верыць, што "разбіранне" пойдзе на карысць бацькам і дзецям, якія шануюць Бацькаўшчыну.

**Уладзімір АНІСКОВІЧ.**

*Ваша сядзіба*

## Прапаную тэхналогію Джэкаба Р.Міттлайдзера

Паважаная рэдакцыя! Добра, што ў "Кола сям'і" ўведзена "сядзібная" тэматыка. Паведамляю пра свае агародныя клопаты, а напачатку пра выпадак, які адбыўся гэтай вясной.

Віталік, наш чатырохгадовы ўнук, прывёў да сябе такога ж хлопчыка Андрэйку. Яны захацелі пакатацца на ровары. Але ў мяне не было магчымасці назіраць за імі на вуліцы, таму я дазволіла катацца на агародзе. Дзеці радасна гарэзалі на роварах, і ў гэты час па Андрэйку зайшоў ягоны дзядуля. Чалавек сталага веку, улюбёны ў зямлю, убачыўшы дзяцей пасярод агарода на роварах, наш паважаны сусед усклікнуў з абурэннем:"Што вы робіце? Хто вам дазволіў?". Мае тлумачэнні — я бачыла гэта па вачах — не зусім пераканалі дзядулю Андрэйкі. А я тлумачыла, што нічога дрэннага не адбылося, бо за гарэзамі я наглядала, што ў мяне такая тэхналогія, якая можа дазволіць гэткае "свавольства". І я запрасіла свайго мажнага суседа зайсці да нас у жніўні ці верасні, калі зямля будзе напакаваная бульбай, буракамі, морквай ды цыбуляй, агуркоў будзе болей, чым лісця, а памідоры бы лялькі, прыгожыя. Ніякага пустазелля на агародзе, ніякіх нітратаў у гародніне. Самы працаёмкі і непрыемны занятак на агародзе — праполка пустазелля — зведзены да мінімуму і замест цяжкай стомленасці прыносіць задавальненне. Не па чутках я ведаю, як цяжка рыдлёўкай ускапаць 5 сотак. Тут жа з 5 сотак капаецца толькі 2, а ўраджаю збіраецца болей, як з поўнасцю ўскапаных 6-ці.

Калі гэта зацікавіла каго-небудзь, то ў наступным лісце я падрабязна напішу тэхналогію, зраблю неабходныя схемы.

Напрыканцы скажу, што гэта тэхналогія распрацавана доктарам Джэкаб Р. Міттлайдзерам, міжнародным экспертам па землеробству.

**Людміла СУДЗІЛОЎСКАЯ.**
г.Гомель.

**Ад вядучага рубрыкі.** Мы таксама чулі пра цудоўную тэхналогію амерыканскага вучонага-земляроба, мяркуем, ёю зацікавяцца і іншыя нашы чытачы-агароднікі. Спадзяёмся, шаноўная спадарыня Судзілоўская свой аповяд пра гэта пастараецца зрабіць, улічваючы сціплыя памеры газетнай плошчы, якая адводзіцца для нашага раздзела. Чакаем матэрыял!

*Захапленні -Hobbies*

## Кветкі — дзеля радасці і здароўя

У Менску, у Траецкім прадмесці (вуліца Максіма Багдановіча, 9а), знаходзіцца гарадскі Дом прыроды. Шмат хто з менчукоў нават і не ведаюць пра яго існаванне. Ён заслугоўвае ўвагі і школьнікаў, і дарослых — аматараў прыроды. Тут праводзяцца выставы кветак, птушак, паляўнічых здабычаў. Так, у чэрвені паказвалі кветкі, а таксама лекавыя, экзатычныя, цытрусавыя, плодныя, пакаёвыя расліны — менавіта тыя, якія растуць у гарадскіх кватэрах і на балконе.

Ладзіў выстаўку клуб (або таварыства) кветкаводаў, аматараў пакаёвых раслін, які называецца "Флорэаль". Ён дзейнічае на грамадскіх пачатках на аснове ўзаемапавагі і дапамогі: людзей яднае толькі адно — любоў да кветак. Дырэктар Дома прыроды Галіна Станіславаўна Заблоцкая дае клубу прытулак. А збіраюцца кветкаводы адзін раз на месяц.

Існуе клуб "Флорэаль" сёмы год. Назву яму прыдумала доктар Алена Белянкова.І пакінула яе клубу ў спадчыну, бо рана пайшла ад нас да Бога. Чаму такая назва? Флорэаль — квецень, другі месяц вясны па французскім рэвалюцыйным календары, які быў уведзены ў 1793 годзе.

У першыя гады існавання клуба актыўна праводзіліся заняткі па батаніцы і агратэхніцы пакаёвых раслін. Аматары кветак слухалі лекцыі, набывалі чаранкі і насенне. Штогод у канцы траўня яны арганізуюць выставы кветак, дзе наведвальнікі могуць атрымаць кансультацыю і набыць тыя, якія іх зацікавілі.

У клубе людзей няшмат: крыху больш за 20. У асноўным менчукі, але ёсць сябры і ў іншых гарадах Беларусі. Кожны аматар нечым захапляецца і ўласна сваім. Алег Макарэвіч, прыкладам, разводзіць цытрусавыя. У яго на кухні выспяваюць ананасы, а у спальні — лімоны. Таццяна Лук'янава мае добрую багатую калекцыю кактусаў, а Алесь Ясюля — цыбулінных раслін. Аднак найбольшай павагі заслугоўвае ветэран клубу Анатоль Якаўлевіч Астроўскі.Чалавек паважнага ўзросту мае ў сваёй двухпакаёвай кватэры невялікі агарод экзатычных раслін.

Сёлета і летась на выставах ён паказваў шмат дзіковінных раслін. Асабліва я звярнуў увагу на адну кветку, якая адпавядае беларускаму нацыянальнаму сцягу. Назва кветкі — клерадэндрум томсан, што ў перакладзе з грэцкай мовы азначае "лёс-дрэва". Цвіце яна бела-чырвона-белым колерам. Знайсці кветкі з спалучэннем такіх колераў даволі цяжка. Праўда, ёсць яшчэ адна лекавая, вельмі карысная расліна мурая, якая цвіце белым колерам, а ягады чырвоныя. Пры гэтым ўлетку кветкі і ягады аднячасова ўпрыгожваюць невялічкае дрэўца і радуюць гаспадара бела-чырвоным колерам. Неабходна нагадаць,што ў апошні час у Менску мурая і клерадэндрум томсан ("беларускі сцяг", "беларускі ўзор") даволі шпарка прапісваецца на вокнах менчукоў. Дзіўна, што пакуль што беларуская нацыянальныя арганізацыі і ўстановы не ведаюць пра гэта. А замест згаданых кветак дзе-нідзе прыхільнікі беларушчыны ставяць на вокнах па 2 белыя і адной чырвонай кветцы герані. Або такім жа чынам ставяць кветкі амарыліса гіпеаструма (амазонскай лілії), каб атрымаць бела-чырвоны сцяг на акне.

Якая ж карысць ад пакаёвых кветак? Па-першае, гэта ўпрыгожвае кватэру, па-другое, асвяжае паветра, ачышчае яго і ў гарадской кватэры робіць яго больш вільготным; па-трэцяе, узбагачае пакой кіслародам і паглынае на святле вуглекіслы газ. Гэта датычыцца ўсіх пакаёвых кветак. Апрача таго, ёсць шмат лекавых раслін, якія добра растуць у кватэрах. Напрыклад, артасіфон (нырачная гарбата), мурая. Нарэшце, некаторыя расліны (лімон, ананас,гранат, мурая, псідыум кетлі ) даюць смачныя плады і ягады. Вось і атрымоўваецца, што пакаёвыя расліны прыносяць радасць і здароўе.

Мяркуем, што нехта з аматараў кветак раскажа пра карысныя расліны на старонках нашай газеты.

**С.БАРЫС.**

*Вучымся*

**Вікторыя ЛЯШУК,**
*кандыдат філалагічных навук*

# Стрыжань

## Пра лён у першай беларускай гаспадарча-кулінарнай энцыклапедыі

*"Ганна Цюндзявіцкая несумненна стала б вучоным у галіне агранаміі, заатэхніі ці медыцыны. Веды яе шматгранныя, энцыклапедычныя. Яна выкарыстоўвае рускія, украінскія, польскія крыніцы, побач з мясцовымі назвамі прыводзіць лацінскія. Правяраючы той або іншы варыянт, аналітычна супастаўляе з"явы, праводзіць, па сутнасці, эксперыменты. І таму асобныя раздзелы твора (пра тое, як гадаваць авечак ці вырошчваць лён) чытаюцца нібы навуковыя трактаты".*

**Адам Мальдзіс.**

Вынесеныя ў эпіграф словы сучаснага знаўцы беларускай старажытнасці прысвечаны таленавітай адукаванай асобе, якая выдала амаль 150 гадоў таму, у 1848 годзе, першую беларускую гаспадарча-кулінарную энцыклапедыю.Тагачасныя сацыяльна-гістарычныя ўмовы паўплывалі не толькі на мову кнігі (напісана папольску), але і на яе назву: ужыванне словаў "Беларусь", "беларускі" было забаронена. "Літоўская гаспадыня" Ганны Цюндзявіцкай належыць цалкам нашай культуры і праз паходжанне яе аўтаркі, і праз вопыт нашых прашчураў, якія засвоіла і ўдасканаліла беларуская шляхцянка, і праз гістарычнасць назвы Меншчыны, як і ўсёй краіны — Літва. Як вядома, ліцвінамі называлі сябе не толькі Адам Міцкевіч, але і Вінцук Дунін-Марцінкевіч, і Уладзіслаў Сыракомля, і Станіслаў Манюшка, якія паходзілі з Меншчыны

Ганна Цюндзявіцкая нарадзілася ў 1803 г. у Каралішчавічах пад Менскам, была заможнай шляхцянкай і, што пацвярджае яе кніга, дасведчанай гаспадыняй. Народны вопыт правярала і ўдакладняла ўласнай практыкай. Адам Мальдзіс гаворыць пра адметны стыль энцыклапедыі: "Нягледзячы на вонкавую бясстраснасць, атрымалася яна залішне індывідуальнай. Ганна Цюндзявіцкая не хавала свайго асабістага "я", свайго густу, сваіх сімпатый і антыпатый". Стыль яе вызначае навуковая грунтоўнасць (пра што сведчаць і словы эпіграфа) і вобразнасць апісання. Паводле назіранняў даследніка "часам кніга чытаецца як гістарычнае (падзеі 1812 года, паморак быдла 1844 года) або белетрыстычнае апавяданне". У тэксце польскага арыгінала заўважаюцца шматлікія беларусізмы: **брусніцы, грузды, дзірван, журавіны, саладуха, чарніцы**. Адметны ў стылі твора мясцовы патрыятызм ("**мы, літвіны**").

Пра пераклад гэтага твора на беларускую мову для знаёмства беларусаў з высокім культурным узроўнем, адметнасцю вядзення дома і гаспадаркі сваіх папярэднікаў марыў Уладзімір Караткевіч. Перакладзеная Г.Р. Казлоўскім і В.В.Нязвецкай "Літоўская гаспадыня" была выдадзена ў серыі "Літаратурныя помнікі Беларусі" ў 1993 годзе.

Звернемся да ўрыўка з главы "Аб вырошчванні льну", які пацвярджае заўвагі Адама Мальдзіса пра стыль аўтаркі:

***"Лён ніколі не трэба сеяць на глебе ўгноенай, агароднай, бо ён не будзе добрым. У сухія гады з яго атрымліваецца няшмат валокнаў, і то дрэнных і кароткіх, а ў сырую пару, хоць расліну і гоніць празмерна высока, яна дае пражу грубую, непрыдатную для тонкіх вырабаў. Акрамя таго, пустазелле, якога шмат расце на такой зямлі, глушыць лён, і тады патрэбна частая, амаль штодзённая праполка.***

*Таму належыць у месцы не залішне высокім, але і не зусім нізкім, не ў лагчыне, выбраць які-небудзь кавалак зямлі не надта пагорысты, пясчаны, аднак і не цвёрды, гліністы, што летась нельга было засяваць збожжам ці агароднінай і ўзорваць на зіму. У апошнія дні красавіка яго ўзорваюць дробна, нібыта пад сяўбу іншага зерня, пакідаюць на пару тыдняў, не чапаюць. Пасля добра скародзяць, каб не засталося адвальных пластоў. На гэтай роўнай раллі сеюць у наступны дзень чыстае насенне льну (насенне траў у ім ужо загінула). Робяць тое ў ясны дзень, бо пасеяны ў сырое надвор"е лён вырасце травяністым і брудным. Тры дні чакаюць, каб пустазелле ад сонца і паветра канчаткова загінула, а на чацвёрты злёгку валочаць па полі перакуленую барану, толькі трохі закрываючы насенне. Тады барозняць і абазначаюць, дзе патрэбна, раўкі для сцёку вады".*

Тэкст мае яркія адзнакі навукова-папулярнага падстылю (**выразнасць**, даступнасць, карыстанне тэрміналогіяй). Аўтарка ўдала выбрала апісальную дэталізаваную форму выкладу, імкнецца падрабязна растлумачыць строгія патрабаванні да гаспадарання і пералічыць вынікі іх парушэння, для чаго выкарыстана шмат характаралагічных слоў (**дрэнныя, кароткія, сырая, грубая**). Такі стыль поўнасцю адпавядае задуме навучыць весці гаспадарку нават пачаткоўцаў. Не менш карысныя звесткі і парады прыведзены і ў главе "Рванне і замочванне льну".

Без пераўвелічэння трэба адзначыць,што энцыклапедыя павучальная не толькі зместам, але і стылем. Варта павучыцца.

*Практычная стылістыка*

# Дастаткова сродкаў

"Дастаткова было першых двух сказаў, каб нам сапраўды стала прыгожа..." Цытаваная фраза, ужытая пры аналізе лаканічнасці пэўнага выказвання, стылёва недасканалая, няўдалая ў аргументацыі. Прычынай таму з"яўляецца безасабовая канструкцыя **нам стала прыгожа.** Разглядаючы стылістычныя асаблівасці сінтаксісу, М.Я.Цікоцкі адзначае, што такія сказы абазначаюць з"явы прыроды, псіхічны або фізічны стан чалавека ці жывой істоты, дзеянні і працэсы, якія адбываюцца незалежна ад утваральніка, быццам самі па сабе, міма волі". У прыведзеным прыкладзе асобу называе займеннік **нам**, які не спалучаецца з прыслоўем **прыгожа,** неўласцівым для абазначэння стану чалавека. Ужывальныя іншыя характарыстыкі: **нам стала прыемна (непрыемна, прыкра, лепш, горш)**, якія аднак не адпавядаюць мэце выказвання. Словам **прыгожа** ў безасабовых сказах (без указання на асобу) перадаюць прыгажосць наваколля, хараство прыроды. ТСБМ пацвярджае такую заканамернасць прыкладамі з мастацкіх твораў: **Свежа і прыгожа было ў лесе** (А.Чарнышэвіч); **Навокал жа было так прыгожа і спакойна** (Янка Маўр).

Як бачым, ужытая сінтаксічная мадэль і значэнні выкарыстаных у ёй слоў не могуць даць выразнае ўяўленне пра сутнасць сціслацці, нясуць у змест адценне неасэнсаванасці, няпэўнасці, адвольнасці, надаюць тлумачэнню расплывістасць, што непажадана ў навукова-папулярным выкладзе, з якога ўзятая цытаваная фраза. Варта звярнуцца да рэальных адзнак аналізаванаі з"явы, адзначыць нешматслоўнасць і зместавую інфармацыйнасць тэксту, яго выразнасць, стройнасць і прыгажосць. Можна сказаць і пра ўвасабленне ў сціслацці моўнага майстэрства. Эмацыйнасці, эстэтычным ацэнкам павінна папярэднічаць змястоўная, лагічная характарыстыка.

Прапануем наступныя заменнікі аналізаванай безасабовай канструкцыі:

**...каб нам стала зразумелай думка.**

**...каб мы (выразна) зразумелі ідэю /думку/ змест.**

**...каб мець уяўленне пра сутнасць выказвання.**

**...каб зразумець ідэю /думку/ змест выказвання.**

**...каб разабрацца ў сутнасці выказвання.**

**...каб дайсці да сутнасці выказвання.**

**...каб ацаніць уменне /майстэрства аўтара сцісла/лаканічна выкладаць/выказваць/думку .**

**...каб мець уяўленне пра сціслаcць выказвання.**

**...каб заўважыць прыгажосць і стройнасць лаканічнага выказвання.**

У прыведзеных варыянтах граматычныя мадэлі і лексіка перадаюць зместавыя адценні аналізаванай фразы. Каб перадаць патрэбную думку — сродкаў дастаткова.

*Да 400-годдзя выдання "Граматыкі славенскай..."*

**Алена ЯСКЕВІЧ,**
*кандыдат філалагічных навук*

# Дапаможнік спудзеям*

Для нармалізацыі і развіцця беларускай літаратурнай мовы, пашырэння яе аўтарытэту ў грамадстве вялікае значэнне меў той факт, што яна ўжо ў пачатку XVI стагоддзя стала прадметам школьнага навучання.

Асаблівы размах набывае вывучэнне беларускай мовы і ў выніку развіцця яе культуры са з"яўленнем у канцы XVI стагоддзя праваслаўных брацкіх школ, якія ўзніклі як рэакцыя на унію і мелі сваёй задачай падрыхтоўку адукаваных людзей для барацьбы супраць паланізацыі.

Паводле дадзеных даследнікаў, больш за дваццаць брацтваў мелі свае школы. І ў выніку, як адзначае А.І. Жураўскі, менавіта "з брацкіх школ выйшлі шматлікія буйныя дзеячы асветы, складальнікі вучэбных дапаможнікаў для школ, аўтары палемічных твораў супраць уніі і трактатаў па багаслоўю і царкоўнай пропаведзі, перакладчыкі і праўшчыкі кніг".

Акрамя таго, брацтвы за два стагоддзі (ад пачатку XVI да канца XVII стст.) надрукавалі каля сарака кніг па-беларуску, выданні з царкоўнаславянскім тэкстам адпаведна забяспечваліся прадмовамі на беларускай літаратурнай мове.

Зусім відавочна, што толькі дзякуючы высокаадукаванаму асяроддзю праваслаўных брацтваў, іх шырока наладжанай культурна-выдавецкай дзейнасці, стала магчымай тая сталая навуковая культура, якую мы назіраем у мовазнаўчых працах Лаўрэнція Зізанія — аднаго з выдатных прадстаўнікоў беларускага асветніцтва.

Лаўрэнцій Зізаній (Тустаноўскі) вядомы нам як аўтар "Азбукі" і "Граматыкі славенскай" (1596), перакладаў з грэцкай "Пропаведзі Іаана Златавуста на пасланні ап. Паўла", "Тлумачэнне на Апакаліпсіс св. Андрэем Кесарыйскім" і прадмоў да іх (1623, 1625), "Вялікага Катэхізісу", "Прамовы ад 18 мая 1618 года на магіле княгіні Соф"і Чартарыйскай" і інш. Асаблівае месца ў навукова-творчай спадчыне Лаўрэнція Зізанія займаюць "Граматыка славенская" і "Азбука", часткай якой і з'яўляецца "Лексіс".

Да Зізанія складальнікі слоўнікаў бачылі сваю задачу ў тым, каб дапамагчы перапісчыкам у іх нялёгкай тэксталагічнай рабоце, — аблегчыць карыстанне "свяшчэннымі кнігамі", абараніць праваслаўе шляхамі духоўнай асветы. У ёй кнізе адводзілася асаблівa адказная роля. У Л.Зізанія мы бачым цалкам навуковы падыход да складання слоўнікаў. У сваім "Лексісе" ён не толькі дае тлумачэнне незразумелых слоў з кніг "свяшчэннага пісання", суправаджаючы адпаведнымі граматычнымі паметамі кожны лексічны нумар, але і ставіць упершыню перад сабой нацыянальна ўсвядомленую задачу — праз слоўнік дапамагчы вучням брацкіх школ авалодаць простай народнай мовай.

Трэба ведаць, якое значэнне надавалася граматычнай культуры ў старажытнасці! Ян Амос Каменскі, напрыклад, патрабаваў пачынаць навучанне "не з якога-небудзь пісьменніка або слоўніка, складзенага адпаведным чынам, а з граматыкі, у той час як пісьменнікі (як і слоўнікі) даюць матэрыял мовы, словы — граматыка надае ім форму, законы ўтварэння і парадак спалучэння слоў". І Л.Зізаній зразумеў, што на пачатку навучання граматычным ведам неабходна невялікая кніга, з якой вучні маглі б і засвоіць асновы народнай гаворкі і праз роднае слова здабыць веды аб навакольным свеце.

* спудзеі — вучні брацкіх школ.

*Ствараем энцыклапедыю "Новай зямлі"*

**Валянціна ВЫХОТА**

# Коласавы зерняткі

*А дзе васпанам адзінокім,*
*Расцерабіўшы сабе* ***пляц,***
*Як горды пан стаяў палац.*

У ўрыўку даецца мастацкі вобраз палаца. Дзеля абмалёўкі даецца словаспалучэнне "расцерабіць пляц". **Расцерабіць**, зак., што. Расчысціць, вызваліць ад дрэў, кустоў (ТСБМ). **пляц**, 1. Зямля пад сядзібай, сядзіба (ТСБМ). **сядзіба**. 2.Зямельны ўчастак, **заняты збудаваннямі**, у адрозненне ад зямлі пад палямі, лугамі, лесам (ТСБМ).

У Слоўніку беларускай мовы І.І.Насовіча падаецца: **пляцъ**, 1) Определенная часть земли под домом.

*Ды што, скажы, ну хоць бы*
*й* ***пляц?***
*Падумаць — выстраіш*
*палац!*

Параўнайце: Bauplatz, der ; 1. einen Bauplatz suchen, kaufen (WDG).

Далей у слоўніку І.І.Насовіча гаворыцца, што пляц — частка зямлі пад сенакосам і гэтаму адпавядае значэнне слова *пляц* у наступным урыўку з паэмы Якуба Коласа.

*Касцы, ваякі мірнай працы*
*Выходзяць з косамі на*
***пляцы****.*

М.Байкоў і С.Некрашэвіч у Беларуска-расійскім слоўніку даюць: Пляц — 1) площадь; 2) участок, плац. як 'участак'.

*Ну,* ***пляц*** *зямлі на чвэрць*
*надзела;*
*.................................*
*— Вядома, бацькаўшчыны*
*шкода, —*
*сказаў Антось у тоне згоды.*

У гэтым урыўку слова *пляц* адпавядае ням.Land, das. Паводле слоўніка сучаснай нямецкай мовы: Land, das; 2.( ohne Pl.) abgegrenztes Stück Boden, abgegrenztes Stück Acker: funf Hektar Land;ein Stück Land erwerben (WDG).

У Слоўніку беларускай мовы І.І.Насовіча слова *пляц* мае таксама іншыя значэнні: **пляцъ** 2). Место, занимаемое лицомъ. *С пляцу не сотупив, упавъ* (параўнайце: не сойти с места nicht von der Stelle* gehen (РНС)); 3). перен. Преимущество говорится при споре, борьбе и подобн. *Я тебе пляцу не уступлю.* (Параўнайце: Plätz m, место (в соревнованиях) j-m den ersten Plätz einraumen уступить первенство кому-л. (GDRW).

*Пляц*. Ням. Platz m. Грэц. plateia (hodos) 'свабоднае адкрытае месца ў горадзе'. Праз лац. plǵtea, с.-лац. placea 'вуліца, двор' трапіла ў роднасныя італ. piazza, франц. place. З апошняй пазычана ў ням., с.-в.-ням. pla(t)z blaz m. У канцы XIII ст. набыло і значэнне 'свабодная прастора'.

*Слова Stelle, як і словы *стаць, стаяць, ставіць* узыходзяць да і.-е. * stha 'стаяць'.

*Культура мовы*

# З картошкі ды ў бульбу

Хоць пра наш народ і кажуць, што ён ціхманы, памяркоўны, талерантны, усё ж пры пэўных варунках, ён гатовы бараніць і свой гонар, і сваю годнасць. Праз усё жыццё баранілі беларусы і сваю мову. Калі б гэта не так, то ці чулі б мы яе сёння. А так, хвала Богу, і пішам на ёй, і чытаем, і газеты, і кнігі якіясь маем.

Не любілі нашы продкі і розных пярэваратняў. З малых гадоў памятаю, калі хто з нашых вяскоўцаў, пабыўшы нейкі час у горадзе ці ў Расіі, спрабаваў наломваць сябе ў расійскую мову, з таго ў нас смяяліся, казалі:

— Ну, ну, раскажы, як гэта заяц бегаў з картошкі ды ў бульбу, з бульбы ды ў картошку... Казалі і з смеху заходзіліся, клаліся...І яно, вядома, чаму. Не было там тае мовы. Была трасянка, грэчмень, як у згаданым прыкладзе з зайцам, які бегаў з картошкі ды ў бульбу.

Гісторыя гэтага каламбура паводле мамінага апавядання такая.

... Гэта яшчэ было да вайны. Вербавалі людзей у Карэлію. Шмат хто паехаў туды і з нашых, падумаўшы: " Мо там лепей будзе?" Праз год — другі многія пачалі вяртацца. Вярнулася і Мар'я Варгуляка. Пазбіраліся да яе бабы і просяць:

— Мар'я, раскажы, што гэта за зямля такая, што гэта за край — Карэлія? Як там людзям жывецца?

І тая Мар'я давай расказваць пра тую Карэлію: і колькі там грыбоў і зверыны ўсялякай. А лясы якія — канца краю няма! Да зайцоў дайшла, расказвае:

— Пайшлі мы ў грыбы. Набралі тых грыбоў і ўжо з лесу выходзім. Аж адкуль не вазьміся — заяц з лесу ды ў картошку, з картошкі ды ў бульбу, з бульбы ды ў картошку...

Вось з тае пары і пайшоў па нашым Мормалі гуляць згаданы каламбур пра зайца, які бегаў з бульбы ды ў картошку; з картошкі ды ў бульбу, высмейваючы розных моўных пярэваратняў.

Так мяркуе мама. А вось Рыгор Яўсееў, пісьменнік, аўтар слоўнічка народных гаворак "Маці казала так..." падказаў, што ў ягоных родных мясцінах таксама можна пачуць такую ж беларуска-расійскую моўную мешаніну картошкі з бульбаю. Вось, прыкладам, які Рыгору Яўсееву пэрл давялося пачуць у сваіх мясцінах. Адзін, завельмі скультураны горадам вясковец, хвалячыся, якая ў яго бульба ўрадзіла, казаў: "Бульбіна ў бульбіну картошка вырасла". А гэта ўжо рэха аж з Бялынічаў. Дзе Бялынічы, а дзе Мормаль... Значыцца, наш народ даўно ўжо і ў розных кутках Беларусі "падлавіў" гэтых грэчменаўцаў, бульба-картошнікаў, якія, наламваючы сябе ў расійскую мову, думаючы, што далучацца да вышэйшай культуры, чым родная, з гэтай нагоды выглядаюць вельмі смешныя. І смех гэты найперш у тым, што згаданыя бульба-картошнікі і не заўважаюць свае моўнай недарэчнасці. Ну але калі яны гэтага самі не заўважаюць, то людзі ім заўсёды падкажуць, а пры нагодзе і пасмяюцца:"А раскажыце, саколікі, — скажуць яны такому бульба-картошніку, — раскажыце, як гэта у вас заяц бегае з бульбы ды ў картошку..."

І гэта здаровы смех! Добра, што ён ёсць! Гэта ў народа адзіная зброя супраць розных пярэваратняў, моўных неахайнікаў.

У канцы чэрвеня — на пачатку ліпеня 1996 г. настаўнікі роднай мовы з суседніх з Беларуссю краін павышалі сваю кваліфікацыю ў Менску. З імі ладзіліся розныя экскурсіі, сустрэчы. Адна з іх адбылася ў рэдакцыі часопіса "Роднае слова". Пад час гаворкі пра бульба-картошнікаў высветлілася,што і на Беласточчыне, і ў Латвіі, а мабыць, і на іншых суседніх з Беларуссю землях, з людзей, якія блытаюць мовы, імкнуцца вырвацца з стыхіі роднай мовы і з патрэбы, і без патрэбы наварочваюць сябе ў мову дзяржаўнай нацыі, таксама пасміхаюцца. Скажам пра тых, хто блытае латышскую мову з беларускай, у Краславе кажуць:" Кур ту біе запрапаўшы?" кур (дзе, куды) ту (ты) біе (быў) запрапаўшы?" Ці яшчэ: "Голым каям (нагой) на пяску". Пра гэта расказвала настаўніца беларускай мовы Святлана Стэльмачонак. А вось на Беласточчыне, прынамсі, у Бельску-Падляшску пра тых, хто настойліва імкнецца да польскай мовы з пагардай да беларускай ды пры гэтым блытае слова адной мовы з другой, кажуць: "Наш жарэбчык бега ад студні до колодця і од колодця до студні..."

Пра гэта паведаміла настаўніца беларускай мовы Тамара Русачык з Бельск-Падляшскай школы на Беласточчыне.

Як бачым, не такі ўжо абыякавы беларус да таго, што робяць з ягонай мовы, што з ёй робіцца. Ва ўсе часы і ў розных мясцінах па-рознаму смяяліся і смяюцца з тых, хто бяздумна выдае сябе за таго, кім ён не ёсць.

**Уладзімір СОДАЛЬ**

